


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 48 (2950) Год LVII | Беласток, 25 лістапада 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Хаця на Падляшшы нямала і старых чароўных мураванак, аднак драўлянае будаўніцтва найбольш характэрнае нашай вёсцы. Беларускай вёсцы выключна, аб чым сведчыць і гэты — ужо восьмы — выпуск конкурсу на найлепш захаваны помнік драўлянага вясковага будаўніцтва.**

# ПАДЛЯШСКІЯ СКАРБЫ

Уршуля ШУБЗДА

**— Беларускае асяроддзе, можна так сказаць, мае найцікавейшыя будынкі, — адзначыў Антоні Масевіч, старшы захавальнік Музея сельскай гаспадаркі імя Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы. — Яны і ў гэтым годзе занялі высокія месцы, а першую ўзнагароду атрымаў будынак Марыі Васілюк з Паўлаў.**

Найчасцей хаты, якія будавалі нярэдка самі гаспадары — бацькі ці дзяды сёлетніх лаўрэатаў — з'яўляюцца не толькі матэрыяльнай, але перш за ўсё духовай спадчынай. Часта сімволіка ўпрыгожванняў хаты не пакідае пытання пра нацыянальнасць ці веравызнанне іх уладальнікаў. Некаторыя будынкі амаль не памяняліся на працягу дзесяцігоддзяў. Так было ў выпадку хаты, якая сёлета атрымала першую ўзнагароду.

— Хату пабудавалі мае дзяды, — адзначыла ўладальніца ўзнагароджанага будынка Марыя Васілюк. — Для мяне расказвала яшчэ бабуля, што яны першыя вярнуліся з бежанства ў 1918 годзе і тады пачаў мой дзед яе будаваць. Пасля мая маці нават хацела пабудаваць новую, а тую разабраць! Ужо мела і дрэва, і вокны, толькі пустакоў не магла дастаць. Такія былі часы, што пустакоў не было. Калі я выйшла замуж, тады мы падумалі: „Навошта ставіць хату ў Паўлах, лепш у Беластоку”. І так старая хата на вёсцы засталася, а маці, калі нарадзіўся сын, перайшла жыць да мяне. Цяпер часта сюды прыязджаю. Маю свой агародчык, на грыбы езджу ці на адпуст у вёсцы.

Домік Марыі Васілюк стаіць шчытом да вуліцы. Ніжняя частка хаты пабеленая вапнай. Хаця цяпер дах пакрыты шыферам, першапачаткова ляжала на ім салома, якая згарэла ад удару маланкі. Паводле слоў члена журы, дырэктара Беластоцкага музея вёскі Артура Гавела, гэты аб'ект з'яўляецца вельмі цікавым прыкладам падляшскай хаты, якая амаль увогуле не змянілася ад часу яе пабудовы.

— Чалавек, калі там увойдзе, адчувае атмасферу вясковай хаты шматдзесяцігадовай даўнасці, галоўным чынам дзякуючы мэблі, разнавідным тканінам, ходнікам, якія ляжаць на гліняный падлозе. Аднак камісію ў сваім рашэнні прызначэння першай узнагароды ўпэўніла дбайнасць гаспадароў і іх клопат аб захаванні яго драўлянай канструкцыі.

Сёлета ўдзел у конкурсе заявілі ўладальнікі пяцідзесяці чатырох будынкаў. Гэта былі ў большасці жылыя хаты. З сельскагаспадарчых пабудоў былі два гумны і свіронак. Як адзначыў старшыня камісіі Антоні Масевіч, старшы захавальнік Музея сельскай гаспадаркі імя Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы, ужо ад трох гадоў найбольш заяў наплывае з Гайнаўскага павета — у гэтым годзе дваццаць два будынкі.

— Асабліва хачу падзякаваць войту Нараўчанскай гміны Мікалаю Павільчу, — сказаў Антоні Масевіч і адначасова адзначыў, што на гэта, колькі гаспадароў прыме ўдзел у конкурсе, уплываюць улады гміны. — Людзі саромеюцца. Кажуць: такую старызну паказваць? Была такая хатка ў Макаўцы, старэнькая. Жыла ў ёй бабуля, якой было пад дзевяноста гадоў, не бачыць,слаба чуе. А хатка, хтосьці мог бы сказаць, запушчаная. Аднак яна была амаль узорным будынкам вясковага будаўніцтва пачатку XX стагоддзя: гліняны ток, печ таксама гліняная, толькі пабеленая. Цудоўная хата! Аб яе мы не даведаліся ад самой гаспадыні, толькі ўлады гміны нас накіравалі.

Добрым прыкладам на пацвярджэнне гэтых слоў з'яўляецца гміна Дуброва-Беластоцкая. Яна, як адзіная з цэлага Сакольскага павета ўжо ад двух гадоў заахвочвае жыхароў Дуброўшчыны прымаць удзел у конкурсе. Сёлета будынак Збігнева Лазоўскага з Новай Вёскі апынуўся на другім месцы. Пабудаваны ў 1904 годзе сям'ёй Лазараў, ужо ад нейкага часу стаіць пусты. Апошняя жыхарка гэтай хаты прадала яе і пераехала ў Чорную-Беластоцкую да сына. Збігнеў Лазоўскі купіў хату галоўным чынам з-за агарода і сельскагаспадарчых пабудоў.

— Усё засталося ў гэтай хаце так, як пакінула яе суседка Лазарова, — сказаў Збігнеў Лазоўскі. — Не хочацца таго мяняць, нішчыць. Гэта пэўна таму, што чалавек сам выхоўваўся ў такой хаце.

Бурмістр Дуброўскай гміны Тадэвуш Цішкоўскі запэўніў, што ў гміне знаходзіцца нават некалькі дзесяткаў цікавых старых будынкаў, якія заслугоўваюць увагі і ўдзелу ў конкурсе.

Варта згадаць, што поспех Заблудаўскай гміны не абмяжоўваецца да першага месца, якое заняла хата Марыі Васілюк з Паўлаў. Таксама высока — на трэцім месцы — апынуліся хаты Мікалая Іванюка і Яна Ляшчынскага з Целушок. Тая ж вёска атрымала яшчэ тры вылучэнні. Як падкрэсліла дырэктарка Гміннага асяродка культуры Цэцылія Галіцкая, жыхары заблудаўскіх вёсак не ад пачатку ахвотна прымалі ўдзел у конкурсе.

— Помню, што некаторыя ўвогуле не хацелі з намі размаўляць. Тлумачылі, што дзеці ў Беластоку, яны тут адны і паказвалі нам дзверы. Мы стараліся пераконваць людзей, што іх хаты прыгожыя і вартасныя. Сёння жыхароў Целушок, Паўлаў ці Рыбалаў не трэба намаўляць. Яны самі падаюць заявы на конкурс і займаюць прызавыя месцы.

Галоўны стваральнік конкурсу на найлепш захаваны помнік драўлянага вясковага будаўніцтва дырэктар Дэпартамента культуры ды нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Анатоль Вап лічыць, што такія мерапрыемствы прамуюць ваяводства і звяртаюць увагу на падляшскія каштоўнасці.

— Чаму некаторыя гміны не хочуць прымаць удзелу ў конкурсе, самі не ведаем. Пішам, размаўляем з войтамі гмін. Там якраз няма каму гэтым заняцца. А ўлады гміны ці дырэктары асяродкаў культуры павінны.

Доказам на словы Анатоля Вапа з'яўляецца Гайнаўская гміна. Антоні Масевіч, хаця падкрэслівае, што з году ў год кола ўдзельнікаў конкурсу пашыраецца, адначасова хвалюецца, што з самой Гайнаўскай гміны, якая таксама багатая ў драўляныя, старыя будынкі, наплывае мала конкурсных заяў. Як удалося нам даведацца, па няясных прычынах войт Гайнаўскай гміны не толькі не стараецца заахвоціць жыхароў гміны да ўдзелу ў конкурсе, але нават забараняе асяродку культуры прымаць заявы ад ахвотных.

**Узнагароджаныя будынкі:**

Першае месца: хата ў Паўлах, 88 (Заблудаўская гміна) — уласнік Марыя Васілюк.

Другія месцы: хата ў Мікулічах, 20 (Мілейчыцкая гміна) — уласнік Марыюш Такаюк; хата ў Новай Вёсцы, 33 (Дуброўская гміна) — уласнік Збігнеў Лазоўскі; хата ў Вілюках, 26 (Дубіцкая гміна) — уласнік Бажэна Лецяк.

Трэція месцы: хата ў Целушках, 34 (Заблудаўская гміна) — уласнік Мікола Іванюк; хата ў Целушках, 21 — уласнік Ян Ляшчынскі; хата ў Дубінах, вул. Галоўная 26 ( Гайнаўская гміна) — уласнік Ніна Радзецкая; хата ў Перляеве, 28 (Перляеўская гміна ) — уласнік Якуб Вяжбіцкі; хата ў Семяноўцы, вул. Лугова, 46 (Нараўчанская гміна) — уласнік Мікола Бірыцкі; хата ў Столбцах, 21 (Нурэцкая гміна) — уласнік Патрыцыя Меўнер.

Вылучэнні: хата ў Цеханоўцы, вул. Парковая 18 — уласнік Магдалена і Кшыштаф Нямыйскія; хата ў Целушках, 62 — уласнік Уладзімір Андраюк; хата ў Целушках, 64 — уласнік Мікола Андраюк; хата ў Юрках (Збуйнаўская гміна) — уласнік Анна Залеўская; хата ў Ліпшчанах, 28 (Ліпская гміна) — уласнік Станіслаў Гарасімік; хата ў Ракавічах, 18 (Чыжоўская гміна) — уласнік Васіль Себясюк; хата і свіран у Вульцы-Нурэцкай, 77 (Нурэцкая гміна) — уласнік Міхал Пытэль; будынак даўняй школы ў Памігачах, 91 (Туросьнская гміна) — уласнік Анна Манцэвіч; загарадзь у Саколі, 25 (Міхалоўская гміна) — уласнік Галіна Паплаўская.

Віншуем усіх узнагароджаных!



Фота Музея ў Цеханоўцы



Першую ўзнагароду атрымаў будынак Марыі Васілюк з Паўлаў. Пераможцу віншуе дырэктар Дэпартамента культуры ды нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Анатоль Вап





# Крамлёўскі рэванш

Усё ж нічога не вартая палітыка сучаснай заходняй дэмакратыі ў дачыненні да таталітарных рэжымаў. Няма там ні прынцыповых пазіцый, ні паслядоўных дзеянняў, ні сапраўдных каштоўнасцей, якія толькі дэкларуюцца. Канешне, ёсць асобныя выдатныя палітыкі, некаторыя актыўныя грамадскія інстытуты, праваабарончыя арганізацыі, у якіх справа не разыходзіцца са словам. Яны робяць усё, што ад іх залежыць, прыкладаюць значныя высілкі ў змаганні за справядлівасць, вольнасць іншых і праўду. Але гэта ўсё не робіць асноўнай палітычнай пагоды. Бо куды гэтым шчырым энтузіястам і руплівым дэмакратыі да гаспадарчых канцэрнаў-монстраў, да магутных фінансавых кланаў, да наскрозь прагматычных палітычных груповак і ўсёахопных спецслужбаў. Дэградавалі і многія раней аўтарытэтныя інстытуты. Той жа Нобелеўскі камітэт раздае прэміі міру кожны год усё абсурдней. А той, хто яе заслугоўвае сапраўды, шанцаў на яе не мае. Прыкладам, сітуацыя з намінаваннем на прэмію трох лідараў былых саюзных рэспублік — Украіны, Беларусі, Расіі, якія мірна афармілі распад прагнілай наскрозь савецкай імперыі. За Белавежскія пагадненні, за дэмілітарызацыю Леанід Краўчук, Станіслаў Шушкевіч і Барыс Ельцын як ніхто заслугоўвалі такога ўганаравання, аднак прэмія міру так і не была ім прысуджана. Куды ўжо там ахвярным праваабаронцам і змагарам за справядлівасць з Кітая, Бірмы, Беларусі, якіх адкінулі пры разглядзе кандыдатур сёлета. Так што такія рэжымы, як кітайскі, расійскі, паўночнакарэйскі могуць яшчэ доўга здзекавацца са сваіх народаў, звонку ім нічога і ніхто не будзе замінаць.

Крамлёўскія ўладары адчуваюць зараз надзвычайную эйфарыю. Уладзімір Пуцін напэўна ўжо прымервае тогу Аляксандра Македонскага. Не меней. Паглядзіце яшчэ гадоў сем-восем таму — колькі няўпэўненых зон уплыву было ў Расіі, шэраг імперскіх сцэнарыяў якой на постсавецкай прасторы папросту з трэскам праваліўся. У суседняй Украіне перамагла аранжавая рэвалюцыя і кіравалі Віктар Юшчанка і Юлія Ціматшэнка. Дачыненні з Грузіяй пасля яшчэ адной мірнай трансфармацыі — „рэвалюцыі ружаў" былі сапсаваны ўшчэнт. Да канца паразумецца з аб'яднанай Еўропай істотна замінаў польскі прэзідэнт Лех Качынскі. З немцамі крамлёўскія стратэгі ўжо даўно пра ўсё былі дамоўлены. Але яшчэ з адным сваім гістарычным сапернікам — ЗША — ішло яшчэ не ўсё гладка. Хоць дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ўжо пры рэспубліканцы Джорджу Бушу-малодшым пачалася палітыка, якую пазней ахрысцілі як „перазагрузка". І вось за апошні, як для гісторыі зусім непрацяглы перыяд, у краінах, першыя асобы і ўрады якіх ніяк не задавальнялі Масквы, адбыліся кардынальныя змены. Пасля смаленскай катастрофы стасункі з Польшчай за кароткі час істотна палепшыліся, фактычна для Крамля знікла „польскае пытанне". На Украіне ўдалося ўзяць поўны рэванш у „аранжыстаў". Належна „афармлены", апрача сапраўды незалежнай і ўнікальнай Эстоніі, і былыя прыбалтыйскія рэспублікі — Літва і Латвія, урады якіх не здолелі стварыць эфектыўнай і дзейснай гаспадарчай сістэмы. З Еўропай у Масквы, здаецца, поўная гармонія. Скажыце, ну што можа насуперак пазіцыі Расіі выказаць, прыкладам, новы кіраўнік Францыі Аланд, у палітыцы якога найважнейшы клопат — узаконіць аднаполыя шлюбы!? А ў Амерыцы Расія атрымала на другі тэрмін абсалютна лаяльнага да яе Абаму з яго адміністрацыяй, няздольных на нейкае шырокае разуменне геапалітычных працэсаў. Ды і не да Расіі зараз Амерыцы. Сам Пуцін нібыта ўмацаваў свае царскія паўнамоцтвы і працягвае тварыць на бяскрайніх расійскіх прасторах усё, што хоча.

Крэмль зараз сапраўды ў эйфарыі — там думаюць, што ўхапілі Бога за бараду. Але ўсе маскоўскія перамогі могуць ужо ў бліжэйшы час стацца піравымі. Новая расійская імперыя — гэта калос на гліняных нагах. Гэтую дзяржаву даўно раздзіраюць сацыяльныя, нацыянальныя і канфесійныя супярэчнасці. За ўсе свае нібыта „перамогі" яна таксама плаціць высокую цану — найяскравейшы прыклад тут з заваяваннем Ічкерыі.

Трэба меркаваць, што ўжо ў бліжэйшы час Крэмль актывізуецца ў працэсе інкарпарацыі і так сур'ёзна залежнай ад яго Беларусі. І тут зраблю адчайны прагноз — вось тады і пачнецца крах яго ганебнай палітыкі...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Акалічнасці адвагі

Калі я шмат чытаў, дык найахвотней у сваім улюбёным фатэлі. Аднак ад часу, калі захапіўся ім мой кот Пуся, чытаю быццам бы менш. Не таму аднак, што кот выгрыз мяне з улюбёнага фатэля. Веды, пазбаўленыя пазнавальнай жарсці, напрамку, мэты служаць ужо толькі самім сабе. Я вычарпаўся з жарсці. Мае веды размножваюць толькі сумненні і дылемы; размножваюць пытанні. Прыгнятаюць яны мяне з роўнай заядласцю, як амаль дванаццаць стагоддзяў таму Марка Аўрэлія. Не параўноўваю сябе, дальбог, да вялікага кесара і філосафа. Звяртаю толькі ўвагу на той факт, што калі тыя самыя пытанні не дачакаліся адказу незалежна ад мінаючага часу, цывілізацыйнага прагрэсу і культурнага развіцця чалавека, ёсць штосьці ў пагаворцы, што адзінае, што адрознівае сучасных людзей ад пячорнага чалавека, гэта спосаб стаўлення пытанняў. З тысячагоддзя ў тысячагоддзе тыя пытанні штораз менш настойлівыя. Штораз менш у іх жарсці. Ці таму, што яны штораз менш катэгарычныя, не патрабуючыя абсалютных адказаў?

Чаго б не дадаць для аздобы чалавека або чаго б у яго не адняць, то і так коранем яго істоты акажацца адвага. І гэтага не аспрэчыш. Аднак здзіўляе тое, што адвага паддаецца безупынным выпрабаванням. Калі на галаву маёй знаёмай зваліліся смерць яе дзіцяці, адважна перанесла гэты нялюдскі цяжар. Праз пару месяцаў у аўтакатастрофе загінуў яе каханы муж. І з гэтым яна адважна справілася — прынамсі на маю думку. А колькі ж ёй каштавала гэта закрытай перад людзьмі пакуты — іншая справа. Год пасля яна даведалася, што заатакаваў яе рак. Мая рэлігійная цётка пракаментавала б такую паслядоўнасць страшных здарэнняў як умяшанне боскіх сіл. Мабыць, спаслалася б яшчэ на біблейскія прыклады Іакавай ахвяры з Ізаака і бедаў Іова, якіх моц выпрабаваў Бог. Маё стаічнае ўфармаванне наказвае мне, аднак, дашукоўвацца ў гэтым іншага сэнсу. Адвага, вось, не з'яўляецца адвагай дадзенай чалавеку, а чымсьці, што паказваецца на фоне некарысных выпадкаў якраз як адвага. Іншымі словамі, паказваем сваю адвагу або яе недахоп, калі прымушаюць нас да гэтага акалічнасці. Так вось адвага гэта толькі вынік. А што яе прычына? Ці рашучасць у супрацьстаянні злому? Можа нейкая ўнутраная і незвычайная вітальная матывіроўка? Можа інстынкт выжывання, а можа чалавечы гонар?

Ёсць людзі, якіх безупынна турбуюць некарысныя выпадкі, або яны гэтыя акалічнасці па розных прычынах самі выклікаюць — і тыя паказваюцца быць найадважнымі. Або найбольш труслівымі. Але ёсць і такія, якіх не кранаюць хваробы і няўдачы злога лёсу, але і не плывуць ніколі яны насуперак плыні падзей. Гэтых — несумненна — адважнымі назваць нельга. Але няма падстаў для таго, каб адмовіць ім у патэнцыяльнай адвазе.

Палітвязень Зміцер Дашкевіч, пакараны за грамадскі пратэст супраць выбарчага фальшавання ў 2010 г. двума гадамі турмы, у чаговы раз быў паддадзены спробе адвагі. Катаваны і зняважваны турэмнымі катамі, ад імя свайго і іншых пераследаваных патрабаваў чалавечага трактавання. За тую адвагу рэжымны суд пакараў яго дадатковым турэмным зняволеннем і перанясеннем у лагер абвостранага рэжыму. Можна толькі дадумвацца, што псіхічнае і фізічнае катаванне працікаў лукашэнкаўскага рэжыму, іх цкаванне і прыніжанне — там штодзённая забаўка вырадкаў, якія называюць сябе дзяржаўнымі функцыянерамі. Дашкевіч палічыў, аднак, што яго адвага не дараўнае благім акалічнасцям, калі рашуча не супрацівіцца парушэнням чалавечага права на гонар. Напісаў адкрыты ліст у Генеральную пракуратуру Беларусі. Піша ў ім, між іншым, аб лагеры, што ён з'яўляецца „месцам, у якім цынічна і паслядоўна знішчаецца ў чалавеку тое, што людскае; шляхам маральнага гвалту, бывае што горшага чым фізічны, з чалавека вырываецца чалавечнасць".

Зміцер Дашкевіч, малады, поўны жарсці чалавек, з якога рэжым выбіў усе надзеі прыпісаныя маладосці, пытаецца пра чалавечнасць. Настойліва пытаецца. Катэгарычна пытаецца. Ці насуперак такой адвагі благія акалічнасці, якія яе выклікалі, не мусяць уступіць? Не мусяць. Ды могуць.

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Перад уцягваннем



Тыдзень таму я абяцаў вам даць справаздачу з таго, што адбылося ў зале Падляшскай оперы і філармоніі на сустрэчы, прысвечанай уцягванню Беластока, Любліна і Жэшава, значыць, г.зв. восі культурнага супрацоўніцтва ў праграму Еўрапейскай сталіцы культуры (ЕСК), ролю якой будзе ў 2016 г. выконваць Вроцлаў. Незалежна ад прадбачання арганізатара сустрэчы Славаміра Майсюшкі з Фонду M.I.A.S.T.O., каардынатара пры беластоцкай Гарадской управе дзеянняў шматмесячнай даўнасці ў карысць таго, каб Беласток стаў гэтай сталіцай, не прыбыў галоўны адказны за гэтую паразу, тагачасны беластоцкі віцэ-прэзідэнт Беластока, цяпер сенатар Тадэвуш Арлуковіч. Славамір Майсюшка не ўмеў растлумачыць, чаму. У эсэмэсавай карэспандэнцыі са мною сенатар Арлуковіч заявіў толькі, што „занямог" (прымяніў якраз такое слова). На сустрэчу прыбыло ледзь восем зацікаўленых, у тым ліку чатырох журналістаў (хутчэй прыватна). Славамір Майсюшка галоўным чынам прабаваў тлумачыцца чаму Беласток і іншыя гарады-прэтэндэнты на тытул ЕСК прайгралі ў чэрвені з Вроцлавам, і не ўмеў аднназначна адказаць, чаму хадайніцтва за гэтае імя, а затым вялікія грошы на культурныя мерапрыемствы не перакаваліся ў Беласток на далейшыя дзеянні, як гэта было ў выпадку іншых прайграных гарадоў, напрыклад, Быдгашчы, Лодзі, Катавіц ці Любліна, не ўспамінаючы Варшавы. Заўважыў прытым:

— Вроцлаў мае прадстаўляць культуру цэлага ўсходняга рэгіёна Польшчы. Усе спадзяваліся, што выйграе Люблін.

Намякаў, спасылаючыся на плёткі, што таму сталіца Ніжняй Сілезіі стала ЕСК, бо адтуль родам міністр культуры Багдан Здраеўскі і падтрымліваў ён свайго калегу (таксама партыйнага) прэзідэнта Вроцлава Рафала Дуткевіча. Адназначыў досыць рызыкоўна:

— Конкурс на ЕСК не аказаўся быць маторам развіцця культуры для ніякага горада, па-за Вроцлавам, і падазраваю, што для Вроцлава гэта будзе (так! — М. Х.) прамоцыяй.

Прызнаўся, што арганізатары ЕСК забіталі да яго — як гэта назваў — кампанейска ў справе падрыхтавання 22 лістапада сустрэчы ў Беластоку. Аднак аб уцягванні Беластока ў дзеянні звязаныя з ЕСК нічога спецыяльнага не ведаў, апрача таго, што асабліва праграмны дырэктар ЕСК Кшыштаф Чыжэўскі (старшыня Асяродка і Фонду „Пагранічча — мастацтваў, культур, народаў" у Сейнах і галоўны каардынатар мінулагодняга Кангрэса культуры Усходняга партнёрства ў Любліне) зацікаўлены запрашэннем да дзеянняў Вроцлаў-Беласток „Wspólтury", ініцыятывы дырэктаркі беластоцкага Драматычнага тэатра Агнешкі Карыткоўскай-Мазур, яднаючай беластоцкія культурныя ўстановы і няўрадавыя арганізацыі вакол супольных дзеянняў. Тут Славамір Майсюшка звярнуў увагу:

— Ідэя „Wspóltury", хаця мне падабаецца, усё ж у яе я не веру.

Дадаў, што мяне найбольш здзівіла з пункту майго разумення ўцягвання Беластока ў ЕСК:

— Галоўным партнёрам для ЕСК павінен быць горад Беласток, калі дасць сваю згоду (у разуменні: беластоцкія ўлады з прэзідэнтам горада на чале — М. Х.).

Вось на маю думку — не павінен. Думаю так, паколькі ў дачыненнях Вроцлаў-Беласток і шырэй усходняя вось не можа даходзіць да ўмяшання ў самую ідэю вроцлаўскай ЕСК. Улады Беластока павінны выконваць ролю выключна дапаможную. Я згодны з Кшыштафам Чыжэўскім, што тут партнёрам павінна быць перш за ўсё „Wspóltura" з ідэямі выпрацаванымі ўнутры яе, значыць, як калісьці гаварылася — да голасу павінны дайсці нізавыя ініцыятывы. І не толькі таму, што г.зв. горад не сумеў справіцца з ідэяй ЕСК на конкурсным этапе і ўжо пасля завяршэння конкурсу нічога з ёю не зрабіў, але таму, што маргінальнае трактаванне ў „горадзе" культуры можа давесці толькі да сутыкненняў, якія будуць зводзіцца да вымушання вызначыць „адпаведную ролю" Беластоку ў рамках ажыццяўлення цэлага праекта Еўрапейскай сталіцы культуры.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Мікола Яноўскі — мастак галубінага сэрца

Мала хто раней ведаў мастацкі талент Мікалая Яноўскага са Старога Беразова Гайнаўскай гміны, які быў вядомы мясцоваму насельніцтву перш за ўсё як аграном, шматгадовы працаўнік Ваяводскага асяродка развіцця сельскай гаспадаркі, а пасля — Асяродка сельскагаспадарчай кансультацыі ў Беластоку. Вёў ён сельскагаспадарчыя курсы ў Гайнаўскай і Чыжоўскай гмінах, пасля завяршэння якіх сяляне атрымлівалі званне «кваліфікаваны земляроб» і «майстар-земляроб». Гаспадарам патрэбныя былі і веды, і пасведчанні аб закончаных курсах. Спадар Мікалай за сваю працу часта ўзнагароджваўся ганаровымі граматамі беластоцкага ваяводы. Так, як іншыя жыхары Беразова, працаваў яшчэ на сваёй гаспадарцы, абрабляў поле і разам з жонкай Верай займаўся гадоўляй жывёлы. Калі выйшаў на пенсію, надалей абрабляў сваё поле і толькі сёлета, на 73-м годзе жыцця, спыніў сельскагаспадарчую актыўнасць.



Мікалай Яноўскі на фоне сваіх алейных карцін

Калі дзевяць гадоў таму першыя алейныя карціны Міколы Яноўскага, разам з працамі Цімафея Ціханюка, паявіліся ў Гайнаўскім доме культуры на жывапіснай выставе «Мастакі галубінага сэрца», людзі са Старога Беразова і наваколля даведаліся, а некаторыя нават убачылі, як прыгожа малюе іх аднасяльчанін Коля Яноўскі.

Пачынаючы з 2003 года, ажно па мінулы год, спадар Мікалай штогод давозіў свае працы на конкурс «Агляд непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі», які ладзіць Гайнаўскі дом культуры і тройчы заваяваў першую ўзнагароду, а таксама займаў іншыя прызавыя месцы. У выніку стаў вядомым жывапісцам-аматарам Гайнаўшчыны.

У час адкрыцця першай персанальнай выставы алейных карцін Міколы Яноўскага, якое адбылося 4 лістапада ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, сабралася многа асоб, перш за ўсё жыхары Гайнаўкі і наваколля, якім падабаецца жывапіс стараберазоўскага мастака. Прыбылі бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак, войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч, радны Падляшскага сейміка, цёзка і аднафамілец Мікола Яноўскі з Пераходаў і настаяцель Новаберазоўскага прыхода протаіерэй Ян Казімірук. Госці гаварылі аб таленце вясковага жывапісца-аматара са Старога Беразова. Многа разоў спадар Мікалай прэзентаваў свае карціны ў час беларускіх народных фэстаў у вёсках і ў час беларускіх мерапрыемстваў у Гайнаўцы. У размове з „Нівай" сказаў, што гэтыя прэзентацыі лічыць у нейкай ступені выстаўкай сваіх прац.

— Мікалай Яноўскі быў добрым аграномам і ёсць добрым мастаком. Мы плануем сарганізаваць выстаўку яго карцін у нашым Этнаграфічна-экуменічным цэнтры ў Дубінах, — заявіла войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч. — Калі б спадар Яноўскі ў маладасці здабыў мастацкую адукацыю, мог бы быць адным з лепшых мастакоў не толькі ў нашым ваяводстве, але і ў краіне. Гледзячы на яго карціны, відаць які вялікі самародны талент ён зараз разгортвае.

Мікола Яноўскі малюе толькі няпоўных дзесяць гадоў. Але яго талент заўважылі ў мінулым настаўнікі падстаровай школы. Аднак у пасляваенны час на вёсцы не было моды пасылаць дзяцей у мастацкія школы. Мікалай паступіў тады ў сельскагаспадарчую школу і свой прафесійны шлях звязаў з земляробствам.

— Настаўніца ў падставовай школе папрасіла нас нарысаваць партрэт Берута і мой рысунак пані так спадабаўся, што папрасіла мяне выканаць яе партрэт. Я тады крыху спалохаўся, бо не ведаў, ці мне з партрэтам настаўніцы так добра атрымаецца, як з партрэтам Берута, але ўдала выканаў і гэты партрэт. Здаралася, але рэдка, што рысаваў партрэты іншых асоб. Калі я працаваў аграномам, то ў вольныя хвіліны рысаваў краявіды або нейкія незвычайныя абставіны, але ніколі раней не браўся за маляванне. Хаця першыя алейныя французскія фарбы купіў я ажно 35 гадоў таму, праляжалі яны 25 гадоў, покі пачаў імі карыстацца. Па-за працай агранома трэба было таксама займацца гаспадаркай дома, — пачаў расказваць мастак, калі сабраныя абышлі залу з яго карцінамі. На выстаўцы можна было ўбачыць працы з краявідамі Белавежскай пушчы і прыпушчанскага рэгіёна, многа было прац з краявідамі з-па-за Беласточчыны ў розныя поры года. На карцінах было відаць зуброў, іншую звярыну і людзей у розных абставінах. Аднаго з жывапісцаў, прыбыўшых на адкрыццё выстаўкі, зацікавіў нацюрморт з кветкамі. На экспазіцыі можна было таксама ўбачыць карціны з царскім белавежскім палацам і мураванай Увазнясенскай царквой з Новага Беразова.

— У парафіяльным доме ў Новым Беразове вісяць тры мае карціны: са Свята-Троіцкім саборам з Гайнаўкі і з мураванай і драўлянай цэрквамі з Новага Беразова. Мае працы з цэрквамі вісяць таксама ў іншых месцах. Найбольш карцін людзі купляюць у мяне на сувеніры. Адны выбіраюць працы з ужо намаляваных карцін, а іншыя заказваюць у мяне намаляваць ім адмысловую працу. Аднак з заказамі па-рознаму бывае, бо калі я закончу маляваць карціну, тады здараецца, што заказчык хоча, каб яшчэ нешта дамаляваць на закончанай рабоце, а гэта ж не такая простая справа. Часцей маімі пакупнікамі з'яўляюцца вяскоўцы, але мае работы купляюць таксама гараджане, людзі розных прафесій і нават прадстаўнікі ўлады, якім патрэбныя сувеніры для гасцей. Прыбытак ад продажу карцін невялікі, бо грошы патрэбныя для куплі новых фарбаў і неабходных матэрыялаў. Трэба таксама многа насядзецца, каб намаляваць больш складаную карціну, — гаварыў Мікалай Яноўскі.

Мастак паспрабаваў пісаць іконы. Дома ў яго знаходзіцца праца «Тайная вячэра», з выявамі Хрыста і апосталаў, якую вельмі доўга выконваў.

На выставе ў белмузеі можна ўбачыць ажно 60 карцін, а каля 20 карцін мастак пакінуў дома.

Гайнаўскі мастак Віктар Кабац лічыць, што Мікалай Яноўскі вельмі добра выпрацаваў свой натуралістычны варштат працы і ўдала паказвае натуру ў рэалістычным выглядзе. З часткі яго карцін эмануе такі казачны спакой.

— Мастакі часта паказваюць акружаючую нас рэчаіснасць у сімвалах, а спадар Мікалай паказвае яе ў натуральным выглядзе. Не можа ён карыстацца мастацкімі прыёмамі, якіх мог бы навучыцца ў мастацкай школе, але карыстаецца вельмі добрай тэхнікай, якую сам выпрацаваў і якая таксама цікавая на свой спосаб. Яго мастацкі талент найбольш праяўляецца на намаляваных ім пейзажах. Мне найцікавейшыя яго пушчанскія пейзажы, гледзячы на якія чалавек адпачывае, — аналізаваў творчасць аўтара выстаўкі мастак Віктар Кабац.

Калі Мікалай Яноўскі пачынаў маляваць, вельмі многа часу прысвяціў першым карцінам.

— Проста я баяўся, каб не сапсаваць першых карцін. Многа дала мне ранейшая экскурсія ў Расію, дзе я пабываў у славутых галерэях расійскага мастацтва. Мела гэта вялікае ўздзеянне на мой жывапіс, а самае вялікае ўражанне зрабіла на мне карціна «Бітва пад Барадзіно». Зараз малюю я хутчэй і шукаю цікавых матываў для маіх прац. Думаю, што намалюю яшчэ цікавыя карціны, карыстаючыся, між іншым, матывамі нашых прыпушчанскіх краявідаў, — сказаў аўтар выстаўкі ў белмузеі. Найбольш малюе ён зімой, у майстэрні, якую абсталяваў у бацькоўскай хаце. Там таксама змяшчаецца галерэя ягоных карцін.

— Калі мой муж вельмі доўга сядзеў пры карцінах, я нават сварылася на яго, каб пакідаў ужо маляванне, — заявіла жонка мастака Вера Яноўская.

На адкрыццё выстаўкі прыбылі сямейнікі і сваякі жывапісца.

— Мне найбольш падабаюцца карціны з людзьмі. Усе яго працы на свой спосаб прыгожыя, — сказала Анна Тарасюк, інструктар Гайнаўскага дома культуры па справах мастацтва, якая мела магчымасць раней прыглянуцца карцінам Мікалая Яноўскага, арганізуючы конкурсы «Агляд непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі».

Ваяводскі радны Мікола Яноўскі сказаў, што чатыры асобы тэлефанавалі яму і пыталіся, ці гэта не яго карціны будуць паказвацца на выстаўцы ў белмузеі і таму можа і ён сам рашыцца паспрабаваць маляваць.

— Мікола Яноўскі павінен як найбольш маляваць нашыя пейзажы і паказваць на карцінах нашых людзей у розных абставінах, ці то ў час працы ў лесе, ці то падчас работы на полі. Добра было б, каб паказваў ён клімат нашай вёскі, дзе сам жыве, і незвычайнасць нашай беларускай зямлі, — заявіў Уладзіслаў Завадскі, спецыяліст па мастацкім фатаграфаванні, які знайшоў многа цікавых месцаў у Белавежскай пушчы і яе наваколлі і ўвекавечыў іх на сваіх здымках.

— Нядаўна я ўпісаўся ў памятную кнігу гэтай мастацкай галерэі і назваў там Міколу Яноўскага Нікіфарам Падляшша. Для яго жывапісу характэрныя цёплыя колеры, якія выклікаюць аптымістычны настрой, — сказаў Славамір Кулік з Гайнаўкі, які нядаўна пачаў маляваць алейнымі фарбамі. Калі даведаўся, што спадар Яноўскі пачаў займацца жывапісам у пажылым узросце, то з радасцю дадаў, што можа і ў яго нешта атрымаецца з маляваннем, якім мае час заняцца будучы на пенсіі.

— Мікалай Яноўскі намаляваў ужо столькі карцін, што маглі б мы арганізаваць вялікую персанальную выстаўку яго прац, — гаварыў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк і дадаў, што калі распачынаў свой прафесійны шлях і праходзіў стажыроўку ў Гайнаўскім доме культуры, заняўся падрыхтоўкай калектыўнай выстаўкі карцін свайго дзядулі Цімафея Ціханюка і Міколы Яноўскага і гэта была першая публічная прэзентацыя карцін мастака са Старога Беразова.

— Мікола Яноўскі, гэта спелы творца. Пачаў позна маляваць, але дзякуючы гэтаму змог прысвяціць сябе творчасці без астатку. Малюе ён з патрэбы сэрца, працуе ў адасабленні ад усялякіх школ і афіцыйных напрамкаў у мастацтве, стараючыся выказаць у сваіх працах уласнае бачанне свету. Яго творчасць запатрабаваная, карыстаецца папулярнасцю, яго карціны ўпрыгожваюць многія хаты на Падляшшы, — паінфармавала Агнешка Ціханюк, адказная ў белмузеі за справы культуры і арганізацыю мастацкіх выставак. Пад яе наглядам паўстаў каталог са здымкамі карцін Міколы Яноўскага. Будзе ён змешчаны ў «Слоўніку беларускіх мастакоў», які выдае Гайнаўскі белмузей у рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва», фінансаванага ў галоўным сродкамі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.

## Кніга памяці

Нядаўна ў свет паявілася „Księga pamięci prawosławnych mieszkańców Białostocczyzny, ofiar wydarzeń z lat 1939-1956” аўтарства Канстанціна Масальскага. Гмінная бібліятэка ў Нараўцы атрымала некалькі яе экземпляраў.

Загадчыца бібліятэкі Марыя Урбановіч параіла мне пазнаёміцца з гэтай кнігай, у якой змешчаны імёны і прозвішчы праваслаўных людзей Беласточчыны, якія загінулі ў агні вайны і ў цяжкі пасляваенны перыяд.

Кожны, хто цікавіцца мінулым, знойдзе ў кнізе сваю мясцовасць, гміну, і даведаецца, хто з яго вёскі ці горада, калі і дзе, і ў якіх абставінах загінуў. Трэба адзначыць, што ў гэтай надзвычай вартаснай публікацыі можна знайсці пэўныя недахопы і памылкі, хаця іх нямнога.

Прыкладна, з маёй Альхоўкі, што ў Нараўчанскай гміне, не ўлічана некалькіх хлопцаў, якія без вестак загінулі на фронце і не вярнуліся дамоў. Прачытаў я, што жыхар Альхоўкі Бароўскі Аляксандр быў вывезены пасля вайны ў СССР, а гэта няпраўда. Ён трагічна загінуў, калі забаўляўся гранатай; аб гэтым часта гаварылі ў вёсцы.

З падліку вынікае, што найбольш праваслаўнага народу загінула ў Гайнаўскім павеце — 1473 чалавекі. Адпаведна ў Беластоцкім павеце — 1225, у Бельскім — 830, у Сямятыцкім — 638. У цэлым ваяводстве былі налічаны 4784 ахвяры. Вельмі цікавыя раздзелы „Białorusini a członkowie podziemia” і „Prawosławni Białorusini a «Bury»”. Калі чытаеш, то страшна робіцца на душы.

Кніга К. Масальскага — гэта даведнік аб трагічным мінулым Беластоцкай зямлі, з якім варта пазнаёміцца.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Пагаворка

Калісь людзі гаварылі: „Няма цара — няма парадку”. А гэта ісцінная праўда. Тут трэба прывесці прыклад з нашай дзяржаўнай чыгункі. Калісь, пры гэтак званай камуне, называлася яна дзяржаўнай. Цяпер з яе паўстала больш дзесяці яўных і няяўных суполак, дзе сядзяць сотні бюракратаў, па некалькіх на аднаго рабочага. І бяруць яны вялікія грошы, а рабочыя не могуць на гэта ўсё зарабіць так, каб і сабе было годна жыць. Узніклі розныя суполкі: Суполка жалезнай дарогі, Суполка зямлі пад рэйкамі, Суполка будынкаў, Суполка вагонаў, Суполка лакаматываў, Суполка рэгіянальных перавозаў, Суполка „Інтэрсіці” і чорт яшчэ ведае якія іншыя суполкі.

Рабочыя пагражаюць страйкам і дамагаюцца ад Маршалкоўскай управы ў Беластоку больш грошай. Але не згадваюць пра тое, колькі грошай бяруць старшыні іхніх суполак. Ці мы, усе падаткаплацельшчыкі, абавязаны ўтрымоўваць іхнія суполкі, а яны будуць рабіць што заўгодна: адмяняць курсіраванне цягнікоў ці часова іх спыняць. Ім ніхто не можа нічога сказаць, бо яны парабіліся панамі над чыгункай і ўсё ў іх руках.

Падумайце, даражэнькія чыноўнікі Маршалкоўскай управы і скажыце чыгуначнікам: „Стоп раскідваўца грашамі падаткаплацельшчыкаў — самі зарабіце грошы сваім начальнікам!”

**Мікалай ЛУК’ЯНЮК**

# Пры грамнічных свечках

■ **Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



Аповеды матушкі Людмілы

**Змрочны і халодны лістапад спрыяе рэфлексіі і задуме над, у большасці выпадкаў, беспаваротна мінулым. Настрой засяроджанасці над рэхам Дзядоў на Крынскай зямлі і сэнсам чалавечага існавання не абмінуў гасціннай „хаты на канцы свету” Ганны Сянкевіч. Тут 5 лістапада сабраліся прадстаўніцы ўсіх колішніх і сённяшніх нацый і веравызнанняў гэтай зямлі, каб пагаварыць і зазнаёміцца з пахавальнымі і памінальнымі звычаямі.**

Першымі голас узялі прадстаўніцы праваслаўных беларусаў. На фоне фатаздымкаў навакольных прыдарожных і магільных крыжоў, знятых галоўнай арганізатаркай сустрэчы, прагучаў аповед матушкі Людмілы Клімук. Знаёмства з царкоўнымі пахавальнымі і памінальнымі правіламі пачала яна словамі: „Вандруем мы праз жыццё са свядомасцю, што калісь назаўсёды закрыем вочы”. Калісь людзі дажывалі ў родных хатах. На вёсках кожны старэйшы чалавек рыхтаваў сабе вопратку, а часам нават і труну на ўласнае пахаванне. Мыццё і адзяванне нябожчыкаў пры спецыяльных малітвах належала выбраным, вясковым жанчынам. Майстры, якія займаліся вытворчасцю дамавін, наогул былі вельмі паважанымі людзьмі. Калісьці сярэдзіну труны абівалі палатном. Мерцвяка ставілі заўсёды на покуці, на лаве прыкрытай тканым дываном, найчасцей з матывам вінаграду ў спецыяльных зялёна-фіялетавых колерах. Калісь нябожчык выглядаў як сапраўдны нябожчык, сёння ён знікае ў пластмасавых выразах пашаны і прызнання. Раней да мерцвяка сходзіліся жыхары ўсёй вёскі незалежна ад веравызнання. Было каму спяваць і плакаць. Сям’я праводзіла з нябожчыкам цэлую ноч. На дзень перад вывадам труны з хаты бацюшка адпраўляў паніхіду альбо спецыяльны акафіст. Вядома, заўсёды з царквы прывозілі спецыяльныя пахавальныя харугвы і крыж. Жанчыны стараліся выткаць і вышыць як найпрыгажэйшы ручнік, які вешалі на правадным крыжы, а потым астаўлялі ў царкве. Такім ручніком аздаблялі потым царкоўныя іконы альбо выкарыстоўвалі ў некаторых літургічных рытуалах.

У час апошняй дарогі ў царкву і на могільнік мярцвец развітваўся з вёскай пры крыжы на яе ўскраіне. У царкве, як і цяпер, служылася літургія і чын адпявання, у час якога на галаву нябожчыка клалі венчык. Як на вянчанне маладым, так і тут у апошнюю дарогу чалавек адпраўляўся з вянцом, на якім напісаны словы „Святы Божа, святы моцны, святы бяссмертны змілуйся над намі”. І цяпер у царкве чытаецца разграшальная малітва, якую бацюшка кладзе нябожчыку ў труну. Потым неслі на плячах труну на могільнік, заўсёды накіраваны на ўсход сонца — месца чакання Страшнага суда. Прадаўжэннем заўпакойнай малітвы быў урачысты абед. Калі нябожчык два дні чакаў у хаце пахавання, усім наведваючым яго быў падрыхтаваны пачастунак. Трэба было абавязкова нешта перакусіць, таму што гэта лічылася як апошняе ўгашчэнне нябожчыкам. Пасля пахавання пераважна служацца памінальныя літургіі на дзевяты і сарakavы дзень ды год пасля смерці. Яны заўсёды спалучаюцца з супольнай стравай у гонар адышоўшага. У царкоўным календары ёсць шмат месца, прысвечанага малітве за пакойнікаў, але найважнейшым памінальным перыядам з’яўляецца Пасха Хрыстова. Тады ўсе павінны наведаць могільнік, каб падзяліцца з пакойнікамі радасцю чакаючага іх уваскрэсення.

Абрад восеньскіх беларускіх Дзядоў прыблізіла прысутным аўтарка гэтага артыкула, якой пашанцавала асабіста ўдзельнічаць у дзядоўскай вячэры пад Мінскам на Беларусі. У адрозненні ад Беласточчыны, на Беларусі памінальныя традыцыі восеньскіх Дзядоў застаюцца жывымі не толькі на вёсках, але і ў сталіцы. Ёсць там таксама людзі, якія захоўваюць і папулярызуюць старыя дзядоўскія песні. Да іх належыць, між іншым, вядомы на Падляшшы беларускі мастак і этнамузыкант Алесь Лось. У сваім дзядоўскім рэпертуары мае ён нават творы з Тыкоціна, даўняй заходняй рубяжы Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта пры гуках дзядоўскай ліры праводзілася незабыўная, памінальная вячэра ў хаце мастака. Да стала заселі пры запаленай грамніцы і прыадчыненым акне — уваходзе для душ. Каб дапамагчы спецыяльным гасцям знайсці сваю хату, цераз акно перавешвалі сямейны ручнік. На багата застаўленым стале была падрыхтавана асобная талерка для душ са стравамі і чарка гарэлкі. Менавіта ад паклікання душ і спажыцця ў іх гонар чарачкі гарэлкі стоячы пачалася гэтая асаблівая вячэра. У час застолля весяліцца не дазвалялася, бо гэта магло абразіць прысутныя душы. Кепска гаварыць пра іх таксама не выпадала. Размовы вяліся на сур’ёзныя тэмы, часта ўспамінаючы слаўных дзядоў і прадзедаў. Завяршэннем багатай, урачыстай вячэры было развітанне з душамі. Гаспадар і ўсе прысутныя паднялі поўныя чаркі і, таксама як пры пакліканні душ, стоячы, як малітву вымаўлялі словы „... а цяпер адлятайце і нам спрыяйце”.

Пра пахавальныя і памінальныя традыцыі крушынянскіх татараў можна было даведацца, слухаючы момантамі вельмі асабістыя ўспаміны Джанэты Багдановіч. Яўрэйскія традыцыі заключыліся ў двух нацыянальных танцах у выкананні ўсіх сабраных. Было месца і на польскую культуру, якая, на жаль, прэзентавалася з незразуменнем і ў адараванні ад мясцовай спецыфікі. На канец голас узялі маладыя дзяўчаты, захопленыя культурай далёкай Індыі. Вельмі займальна прадставілі яны адносіны да жыцця і смерці жыхароў гэтай часткі свету.

Завяршэннем рэфлексіўнага вечара было супольнае застолле, на якім побач беларускай куцці былі памінальныя стравы ўсіх народаў і веравызнанняў якія пражывалі калісь і цяпер пражываюць у Крынках і наваколлі.





# Прароцтва Жугжды-Гусоўскага

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Толькі раз адзін з найнавейшых спектакляў на беларускай мове паказаў у Беластоку Гродзенскі абласны тэатр лялек. Незалежна ад таго, поўнае сімволікі відовішча для старэйшай моладзі і дарослых „Паляванне на зубра" паводле XVI-вечнай паэмы Міколы Гусоўскага не прыцягнула ў Беластоцкі лялечны тэатр тлумаў. Рэкламы прадстаўлення не было ў беластоцкіх СМІ і ў публічных месцах, служыўшых для гэтага (кажуць, адна з трох афіш прывезеных гродзенцамі, павісла ў сядзібе БГКТ).

Згодна запэўніванням працаўнікоў БЛТ, у школы, дзе навучаецца беларуская мова, была разасланая інфармацыя аб гастролях гродзенскіх лялечнікаў. Спадзяваліся нават, што „Паляванне на зубра" прыйдзецца ставіць двойчы. На жаль, паявілася толькі адна сарганізаваная група — школьнай моладзі з Гайнаўкі.

Гродзенская прэм'ера спектакля ў рэжысуры Алега Жугжды і сцэнічным афармленні Ларысы Мікінай-Прабадзяк (беластоцкі паказ адбыўся 14 лістапада ў сераду, а 18 гадзіне) адбылася ў чэрвені. Як сказала „Ніве" памочнік рэжысёра Людміла Паўлоўская, дасюль ставіўся ён ледзь шэсць разоў:

— Вельмі любім іграць на падмостках БЛТ. Гэта вельмі прафесійны тэатр, працуюць у ім знакамітыя акцёры. Аглядаючы наш спектакль аж сэрца сціскаецца, калі бачым, што людзі так лёгка страчваюць тое, што маюць найбольш каштоўнае, а жыццё — такое кароткае.

Супрацоўніцтва БЛТ з Гродзенскім тэатрам лялек працягваецца ўжо больш за дваццаць гадоў. Прынамсі раз у год тэатры прэзентуюць свае мерапрыемствы ўзаемна ў Гродне і ў Беластоку. У апошні час беластоцкая публіка мела магчымасць захапляцца гродзенскай „Пікавай дамай" (у рускамоўнай версіі). Тады і цяпер Алег Жугжда выкарыстаў майстэрскую ігру Ларысы Мікуліч, а побач яе — у гэты раз — шасцёркі іншых выканаўцаў. Мабыць, з-за рамонту вялікай сцэны БЛТ, гадзіннае „Паляванне на зубра" паказалі на камернай сцэне, што стварала лепшыя магчымасці, каб прыглядвацца рухам невялікіх марыянетак (м.інш. Летапісца), хаця ў сцэнах з выкарыстаннем рухомых аб'ектаў-карцін у рамах (вобраз каралевы Боны), анімацыі вялікай па памерах металічнай клеткай, змяняючай свае сцэнічныя функцыі ці фільмавай праекцыі на трох кавалках белай тканіны-сукна, гэтая невялікая адлегласць гледачоў ад сцэнічнага месца крыху мяшала ва ўспрыманні магіі Белавежскай пушчы, у якую аўтары прадстаўлення хацелі ўвесці гледачоў. Ужо традыцыйна рэжысёр выкарыстаў у спектаклі розныя тэатральныя тэхнікі ад жывога плана праз маску і прадметы да камп'ютарных анімацый. Загалоўны зубр паяўляўся як маска, статуэтка, на канец у фінальнай сцэне як распадаючаяся на вачах гледачоў канструкцыя з драцяных элементаў з выкарыстаннем лямпачак у месцы зубровых вачэй.

Гродзенскае „Паляванне на зубра", першапачаткова напісанае па-лацінску („Carmen de statura feritate ac venatione bisontis") у 1522 г., паказалі ў знакамітым перакладзе на беларускую мову Наталлі Арсенневай (фрагмент „Прысвячэнне Боне Сфорца" — у тлумачэнні Віктара Дарашкевіча). У пастаноўцы Алега Жугжды, галоўнага рэжысёра Гродзенскага тэатра лялек, гэтая раннерэнесансная лацінская паэма была спалучана з беларускім фальклорам, у тым ліку з народнымі песнямі (у музычным пласце выкарысталі таксама м.інш. песню Аляксандры Пахмутавай на словы Мікалая Дабранравава „Белавежская пушча" ў выкананні ансамбля „Песняры"). Горкая рэфлексія над праблематыкай вайны і міру, жыцця і смерці, кары і міласэрнасці пераплецена з гісторыяй беларускай зямлі і яе жыхароў. Хвалявала фінальная сцэна сімвалічнага распаду зубра (металічнай канструкцыі), спалучаная са смерцю чалавека. Снаваўся матыў, спасылаючыся на час Вялікага Княства Літоўскага, але і на апошнюю сусветную вайну, якой адны з найважнейшых карцін звязаны былі з Белавежскай пушчай (тут на фоне паявілася вядомая песня Ганса Лайпа „Лілі Марлен"). У спектаклі прагучаў таксама заклікканчаючы паэму, які Гусоўскі ў свой час накіраваў хрысціянскім уладарам, заахвочваючы іх да супольнага супрацьстаяння туркам, якое сёння набірае новых значэнняў, асабліва фрагмент: „Нашым князям, благаю, дай апамятанне, няхай убачаць, што абавязак свой здрадзілі яны. То ж кожны з іх, пусціўшы з рук стырно праўлення светам, з імя ён толькі стораж, па сутнасці ён — воўк". У размове з „Нівай" Алег Жугжда сказаў:

— Гаворка тут пра тое, каб уладары прыгадалі сабе аб абавязках у адносінах да народа, каб не займаліся выключна самі сабою. Гусоўскі надалей актуальны. Больш таго, некаторыя фрагменты гэтага тэксту б'юць прама ў цэль, адносячыся да нашага сучаснага жыцця, стаўлення ўлады да нацыянальнай культуры. Гэта шырокі агляд беларускага жыцця. Гусоўскі, ён такі Настрадамус, прарок, вырысоўваючы ўсе стадыі, праз якія мае прайсці наша краіна. Сам зубр у нашым спектаклі гэта зборны вобраз Беларусі. Гэта з'яднанне абсалютна ўсяго, ад экалогіі, нацыянальнага пытання — да палітыкі, так унутранай, як і замежнай.

Ян Карчэўскі, настаўнік Комплексу школ з беларускай мовай у Гайнаўцы прывёз на спектакль групу са звыш за трыццаці вучняў, у большасці з гімназічных класаў, яшчэ перад чытаннем фрагментаў паэмы Міколы Гусоўскага, якія м.інш. побач твораў Францыска Скарыны, аналізуюцца і чытаюцца ў першым класе ліцэя пры нагодзе абмеркавання эпохі Адраджэння:

— Гэта паэма вучыць перш за ўсё любові да роднай краіны, павагі такім каштоўнасцям як свабода, павагі да роднай прыроды. Ёсць там таксама супраціў войнам, бо кожная з іх гэта бяда, крыўда, зло. Твор Гусоўскага нясе ўніверсальныя каштоўнасці. З кантэксту можна вычытаць таксама шмат аб сучаснай Беларусі. Абавязкам улады ў адносінах да народа з'яўляецца ўшанаванне сваёй культуры і традыцыі. На сённяшні дзень ідэяй паэмы Гусоўскага можа быць, каб Беларусь займала сваё, адпаведнае месца ў сучаснай, супольнай Еўропе, каб не была збоку. Сам Гусоўскі ў свой час быў такім еўрапейцам, у сённяшнім паняцці ўз'яднанай Еўропы.

Сярод гледачоў прыкмецілі мы гісторыка доктар Алену Глагоўскую з Кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку. Выходзіўшы са спектакля сказала нам:

— Гэты спектакль поўны сімвалізму. Прыменены тут краты асацыяваліся мне з аднаго боку са свабодай, з другога — з няволяй у гэтым сімвалічна ўспрыманым Вялікім Княстве Літоўскім. Надалей сутыкаемся з гэтымі самымі праблемамі, датычнымі ўлады, панавання, прымянення сілы.

Спектакль паглядзеў таксама м.інш. Матэвуш Севастыянік, старшыня Беларускага аб'яднання студэнтаў:

— Я прыйшоў, каб сабе прыгадаць паэму, бо чытаў яе тры гады таму ў ліцэі, рыхтуючыся да беларускай алімпіяды. Веданне гэтай паэмы было патрабаваннем, але і прыемнасцю, бо прыемна знаёміцца з гісторыяй Беларусі, якая вельмі багатая, а мала хто аб ёй ведае.

„Паляванне на зубра" было паказана ў Беластоку дзень пасля таго, як у Мінску „Пікавая дама" гродзенскіх лялечнікаў была намінавана да нацыянальнай тэатральнай прэміі ў катэгорыях: найлепшы спектакль тэатра лялек, найлепшая рэжысура, найлепшыя ролі жаночая і мужчынская. Аб планах свайго тэатра Алег Жугжда расказаў нам:

— Завяршаем рэпетыцыі да спектакля „Мальчик-звезда" паводле Оскара Уайльда. Тут таксама робім спробу, каб гэты тэкст наблізіць да нашага часу, да нашай рэальнасці. Роўна праз год плануем прэм'еру „Фаўста" Іагана Вольфганга Гётэ.

## Па гарачых слядах

У летні перыяд жыхары Саўлян, Каракуль і Цеснага ў Супрасльскай гміне маюць замала курсаў аўтобусаў гарадскога транспарту. У гадзінах ад 9 да 14.30 не едзе ані адзін аўтобус лініі № 13 з Беластока ў тыя ж Саўляны ці Каракулі. А гэта ж пяць з паловай гадзіны! Чаму радныя і солтысы не заняліся гэтай справай?

7 жніўня г.г. я паехаў да бурмістра ў Супрасль. Калі быў ужо на месцы а гадзіне 12, кіраўніка горада і ўсёй гміны не заспеў ва ўстанове. Ніхто не ведаў куды ён пайшоў і калі вернецца. Пайшоў я да сакратара. Ён у жніўні ў водпуску, але штодзень на адну гадзіну заходзіць у свой кабінет. Сакратар Жукоўскі згадзіўся на размову са мною і я расказаў пра праблему з даездам жыхароў Саўлян. Я прасіў, каб даць хаця б адзін курс а гадзіне 11.50. Спадар Жукоўскі сказаў, што гэта немагчыма, бо ў іхняй касе няма грошай. Зараз і так многа плацяць Беластоцкай гарадской камунікацыі (БКМ). Тады я раіў забраць курс а гадзіне 16. Пасля поўдня едзе аўтобус а гадзіне 14.30 і наступны — гэты а 16 — праз паўтары гадзіны. Мая прапанова будзе разгледжана.

Улады горада і гміны ў пачатку гэтага года заключылі дагавор з БКМ на новую лінію — № 111. Гарадскія аўтобусы ў Супрасль і назад ездзяць 24 разы (!) ад гадзіны 3.32 да 22.29. Варта дадаць, што гэты аўтобус ездзіць праз горад Беласток на вакзал ПКС. Вось дык выгада!

Саўляне мелі надзею, што лінія № 111 раз або два разы паедзе ў Супрасль праз іх вёску (у ёй пражывае 320 чалавек). Нават бурмістр абяцаў, але на абяцаннях і скончылася.

Два гады таму жыхары Саўлян сардэчна прымалі ў сябе кандыдата на бурмістра Радаслава Дабравольскага ў сваёй святліцы. Іяны аддалі на яго свае галасы. Ён абяцаў дадаць у Саўляны 1-2 курсы аўтобуса № 13. Я быў на гэтым сходзе і памятаю. Ды калі стаў ён бурмістрам, пра праблемы жыхароў Саўлян забыўся і ніколі больш не наведаўся. Як жа гэтак можна? Ну, давер у саўлян мае ён страчаны.

У вёску ад горада 2 кіламетры і іх неабходна адольваць пехатой. Няма ў Саўляны ні сцяжынкі, ні тратуара. Пешаходы ходзяць па праезджай частцы дарогі, а самаходаў тут ездзіць процьма. Да таго яшчэ абочыны дарогі зараслі высокай травой ды кустамі. І цяжка адысці ад асфальтавага палатна ўбок. А як жа небяспечна вандраваць па такой дарозе ў прыцемках ці ноччу!

## Ёсць дзе пагрэцца і з'есці

Турысты і мясцовыя жыхары хваляць рэстаран у Гайнаўцы па вуліцы 3 Мая (за ім знаходзіцца мэблевая фабрыка). Ад панядзелка да пятніцы ў ім можна з'есці смачны абед. Заўсёды ёсць штосьці смачнае да выбару. Апрача гарачых страў ёсць піва, кава, гарбата. Хто менш прагаладаецца, можа з'есці толькі суп. Лустаў хлеба бяры колькі хочаш. Рэстаран часта наведваюць перш-наперш пенсіянеры ды асобы, якія жывуць адзінока. Прыходзяць яны на абеды перш за ўсё ў халодную восень і зімою. Без рэстарана ім было б цяжка пражыць халодную пару года. У рэстаране можна заказаць абед на розныя сямейныя ўрачыстасці. Тут нядаўна мелі традыцыйную сустрэчу і супольны абед настаўнікі-пенсіянеры.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Я хачу быць такім, як мой тата!

— А я збудую дом для Караліны, — кажа першакласнік Дамінік. Хлапчук глядзіць з захапленнем на сваю старэйшую сяброўку з трэцяга класа. А тая быццам і прыкмячае яго сімпатыі...

— А дзе будзе стаяць гэты дом?

— На маім панадворку, у нашай вёсцы, у Залуках!

Школа ў Залуках. Ад парога прывітала мяне вясёлая кампанія з першага, другога і трэцяга класаў песняй „Захварэў мой бедны коцік”.

Вось, пра катоў нельга забываць, асабліва ў холад.

На пачатку мы цэлай грамадой рашылі развучыць языкаломку з новай „Зоркі”. Дзеці былі захоплены, што напісала іх тая самая аўтарка ад іх „Хворага коціка”. Спачатку мы рашылі запісаць тэкст на дошцы. З задачай справіўся трэцякласнік Міхал Варановіч. Пачалі чытаць, а тут праблема! Малодшыя дзеці яшчэ не ўмеюць чытаць. Вершык прыйшлося вывучаць са слыху. Першая справілася маленькая Юля Гжэсь.

— У Юленькі добрая памяць, — пахваліла дзяўчынку пані Марыся.

У Залуках усе дзеці вывучаюць беларускую мову. Дзякуючы гэтаму яны разумелі мой расказ і ніхто не прасіў, каб ім тлумачыць нешта па-польску. Усе дзеткі сабраліся ў кучку, каб па чарзе расказаць пра сябе і планы на будучыню. Аказалася, што хлопцы хацелі займацца „тым, чым займаецца тата”. У нашай кампаніі з'явіліся будучыя земляробы, дрывасекі, шафёры аўтафураў. Хлопцы, як адзін муж, паабяцалі стаць пажарнікамі, рыбаловамі і спартсменамі...

— У нашай групе ёсць таксама выдатны дэкламатар, — адзначыла настаўніца.

На конкурс „Роднае слова” з Залук заўсёды прыязджае многа дзяцей. Самы вялікі поспех належыць згаданаму ўжо Міхасю Варановічу. Хлапец заняў трэцяе месца на цэнтральным этапе конкурсу. Гаварыў верш „Родны край” — пра Беларусь. Цяпер ім ганарацца ў школе.

— А што скажаш пра свае планы і мары на будучыню?

— Я хачу быць прафесійным рыбаловам, — кажа ўпэўнена хлапчук. І як з рукава, сыпнуў назвамі рыб: акунь, сом, лінь, карась, карп.

Міхась у вольны час займаецца рыбалкай. Дзеля гэтага ён ездзіць з татам да свайго дзядзькі ў Ляшчаны, што над ракой Нетупай. Там проста рай для рыбака...

У Залуках шмат планаў на найбліжэйшыя дні і месяцы. Якраз поўнай параю ішла падрыхтоўка да вечарыны, прысвечанай Янушу Корчаку. Далей мелі намер вясёла адсвяткаваць Запусты.

— Але найбольш чакаем Каляд, — сказалі нашы сябры.

У час Каляд усе дзеці пойдуць калядаваць. Так, гэта намнога цікавей, чым сядзець ля камп'ютара і глядзець карцінкі.

— Як штогод мы падрыхтуем беларускую праграму на школьныя яслі, — дадае пані Марыся Панасэвіч-Дубіцкая.

**ЗОРКА**

Фота Ганны Кандрацюк





Міхась Варановіч



## Вершы Віктара Шведа

### Як нам жыць трэба, каб пайсці да неба?

Настаўнік Божага закона
Пытае дзяцей улюбёных:
— Якім трэба быць у жыцці
Каб да неба потым пайсці?

Удумлівы надта Ваня
Адказвае на пытанне:
— Памерці раней нам трэба
Каб пайсці потым да неба.

### У касцёле

Моляцца ў касцёле
Вернікі за душы.
Не чулі ніколі
Таго хлопца Вушы.

— Даражэнькі тата,
Азваўся Паўлуша, —
Ідзем хутчэй дахаты
Бо і нас задушаць.

# Свята Незалежнасці ў Нараўчанскай гміне

9 лістапада 2012 г. у Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы адбылася ўрачыстасць пад лозунгам „Нашыя дарогі да незалежнасці". Прымалі ў ёй удзел не толькі вучні Комплексу школ у Нараўцы, але таксама запрошаныя госці, дырэкцыя, настаўнікі і бацькі.

Урачыстасць падрыхтавалі вучні другіх класаў гімназіі пад кірункам настаўніцы гісторыі с. Ларысы Недзьведзь.

У гэты дзень мы даведаліся, а некаторыя прыпомнілі, пра важныя падзеі ў гісторыі нашай дзяржавы. Дзякуючы выступленням сяброў, усе ўявілі сабе, як нашыя продкі 123 гады змагаліся за незалежнасць Польшчы.

Потым адбылося падвядзенне вынікаў дэкламатарскага конкурсу для вучняў пачатковай школы. Пераможцы маглі перад вялікай публікай паказаць свае мастацкія здольнасці.

Дзень 11 лістапада — важны дзень для Польшчы. Мы цешымся, што ў кароткім часе маглі дакладна пазнаёміцца з гісторыяй гэтага дня і дзякуем нашым продкам за тое, што можам жыць у вольнай Польшчы.

*Наталля Васько*
*I клас Гімназіі ў Нараўцы*



Каміль Сельвясюк з гайнаўскай „шасцёркі"

# Конкурс восень (35)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам восені. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Якое свята адзначаем 27 лістапада?**
а) Дзень герояў,
б) Дзень лесу,
в) Дзень нацыянальнага гімна.

**2. Хто аўтар патрыятычнай песні „У гушчарах":**
а) Язэп Пушча,
б) Наталля Арсеннева,
в) Ларыса Геніюш.

**3. Які беластоцкі беларускі гурт збіраецца напрыканцы лістапада на турнэ па Беларусі?**
а) „Прымакі",
б) „Ріма",
в) „Ilo&friends".

Адказы на конкурс № 35 дасылайце да 10 снежня 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі").

Адказ на конкурс № 32: 1 — ад лісця (в); 2 — лістоўніца (а); 3 — „Тузін. Немаўля" (а). Узнагароду — набор каляровых фарбаў для малявання на тканіне — выйграла **Наталля Васько** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Музыка з кайфам

## Як гэта атрымліваецца...? Алесь Кот-Зайцаў



Слухаў «Radiohead», «Pink Floyd», «Уліс», зараз самая важная справа гэта ўласная творчасць. Алесь Кот-Зайцаў працягвае гутарку з мінулага тыдня, распавядае чаму з'ехаў з Беларусі...

***— Чаму Ты вырашыў падацца ў Маскву?***

— Найперш мушу сказаць, што я не падаўся ў Маскву, мяне туды паклікалі. Напэўна гэта збег абставінаў, які мусіў адбыцца. На той момант, калі я пачаў працаваць з новым гуртом у Маскве, «Босае сонца» ўжо пераўтварылася ў свайго роду міжнародны праект. Наш басіст Алесь Ясінскі, які досыць важкую ролю адыгрывае ў стварэнні музыкі «БС», з'ехаў навучацца ў Прагу. Бубнач Арцём Рулёў з'ехаў працаваць у Маскву і мы доўгі час шукалі яму замену. Таму сітуацыю з «БС» мой ад'езд у Маскву толькі падмацаваў — мы нарэшце зразумелі, што з сябе ўяўляе гурт цяпер і як у гэтай сітуацыі працаваць. А з Масквой усё досыць проста. Арцём Рулёў праз некаторы час запрасіў мяне далучыцца і паспрабаваць працаваць з яго новым гуртом у Маскве. Я пару разоў з'ездзіў, паспрабаваў, і ў выніку мы пачалі сур'ёзную і, думаю, доўгатэрміновую працу.

***— Якія бачыш сабе там перспектывы і шансы?***

— Шансы і перспектывы як для сябе ўласна, так і для нашай новай каманды бачу вельмі сур'ёзныя. І не толькі ў Маскве. Там проста найзручнейшая і найлепшая для нашай сітуацыі база для працы. Але, мяркую, мы можам пайсці і куды далей за Маскву.

***— Як даводзіцца працаваць надалей з «БС», калі вы так раз'ехаліся па свеце?***

— Як я і казаў, мінулы год быў для нас цяжкім. Мы працавалі на адлегласці і ніхто не ведаў, як будзе далей. Вырашэннем гэтай няпэўнасці і незразумелай сітуацыі для мяне ўласна стала новая праца ў Маскве. Цяпер я ўяўляю як працаваць у такіх абставінах з «БС». Мы проста маем свае мэты, разумеем што і як рабіць. Таму адлегласць на дадзены момант — гэта толькі тэхнічная перашкода, якая калі і з'яўляецца нейкай праблемай, то праблема гэтая пры жаданні цалкам вырашальная. Прынамсі гэтыя адлегласці не перашкаджаюць нам зараз завяршаць свой дэбютны альбом, адначасова працаваць над другім альбомам і нават ужо трошкі думаць пра трэці. Не перашкаджаюць гэтыя адлегласці і граць якасныя канцэрты, як тое было нядаўна на «Бардаўскай восені», ці будзе ў Менску, калі мы будзем напрыканцы студзеня прэзентаваць сваю пліту. Больш таго, зацважу, што такая сітуацыя прымушае нас больш адказна ставіцца да сваёй працы ў «БС», з-за чаго прафесійны ўзровень гурту ў цэлым расце. Адным словам, як тое не дзіўна, а мне нават падабаецца тое, як зараз складася сітуацыя з гуртом «Босае сонца».

**i_basovka@o2.pl**



# Адкуль песня беларуская?

*(легенда)*

Ці то полем, ці то лесам ішлі тры падарожнікі. Ішлі яны тры дні і тры ночы, ды яшчэ паўдня. Прытаміліся. Прыселі. Раптам чуюць — спявае нехта. Прыслухаўся першы:

— Відаць, жаўранак.

— Не, — кажа другі, — гэта лес шуміць.

А трэці прыпаў вухам да зямлі і прашаптаў:

— Ды гэта ж зямля наша спявае.

## Грышка і арэшак

**Грэцкі арэх грыз Рыгорка,**
**Ваверка Варка жартавала:**
**Шалупіння з арэха горка,**
**а ядра ў арэху як не бывала.**

**Міра ЛУКША**

# Польска-беларуская крыжаванка № 48

**Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на крыжаванку № 43:**

**Краса, мо, мухамор, густ, Ян, жарт, рэклама. Камінар, жук, смага, мурза, мост, торт, на.**

**Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі Іаанна Лукша з Нараўкі, Габрыель Кузьмін, Эмілія Раманчук, Павел Мамотка, Наталля Грыцюк з Бельска-Падляшскага, Мартына Леанюк, Наталля Сцепанюк з Орлі. Віншуем!**



# Стваранне адкрытага грамадства

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Аб практыках у супрацьдзеянні дыскрымінацыі на нацыянальнай і этнічнай глебе на тэрыторыі Падляшскага ваяводства і шырэй аб праекце „Добрае трактаванне стандартам добрага кіравання" дыскутавалі ў адным з беластоцкіх гатэляў прадстаўнікі ўстаноў і няўрадавых арганізацый зацікаўленых тэмай роўнасці. Арганізатарам сустрэчы была ўпаўнаважаная ўрада па справах роўнага трактавання міністр Агнешка Казлоўская-Раевіч. Самі прадстаўнікі нацыянальных і этнічных меншасцей, аднак, у час дэбаты апынуліся на абочыне.



Злева: пасол Роберт Тышкевіч, Марэк Масальскі, Тадэвуш Мосек, віцэ-ваявода падляшскі Войцех Дзжгоўскі, міністр Агнешка Казлоўская-Раевіч

Праект „Добрае трактаванне стандартам добрага кіравання" рэалізуецца ад мінулага года. Палітыка роўнага трактавання і супрацьдзеяння дыскрымінацыі ў кожнай яе фоме, у тым ліку на нацыянальнай і рэлігійнай глебе, мае гарантаваць м.інш. справядлівы доступ да тавараў і паслуг. Як адзначыла ва ўступе канферэнцыі міністр Казлоўская-Раевіч, „патрэба рэалізацыі праекта вынікае з факта, што незалежна ад добрых юрыдычных і арганізацыйных вырашэнняў, на практыцы маем надалей дачыненне са шматлікімі прыкладамі няроўнасці". У рамках праекта мае быць абучаных больш за 460 працаўнікоў з каля 90 адміністрацыйных і публічных устаноў. Як адзначыў Адам Арлоўскі з бюро ўпаўнаважанай па справах роўнага трактавання, у рамках акцыі звязанай з супрацьдзеяннем дыскрымінацыі вядуцца, апрача абучэнняў чыноўнікаў, м.інш. акцыі папулярызацыі праекта, у тым ліку публікацыя коміксаў на інтэрнэтных сайтах, распаўсюджванне плакатаў у аўтобусах гарадской камунікацыі (пакуль толькі ў Варшаве). Малгажата Пэркоўская, таксама з бюро ўпаўнаважанай, прадставіла вынікі апытальных даследаванняў з'яў дыскрымінацыі ў Польшчы, праведзеных Ягелонскім універсітэтам. Апытаны былі 1715 выпадковых асоб. Прымаліся пад увагу асабістыя адчуванні горшага трактавання, кантакт з асобай горш трактаванай і перакананне аб існаванні ў Польшчы горшага трактавання. Найбольш асоб адчувае горшае трактаванне па прычыне ўзросту (12%) і полу (10%), беднасці (9%), палітычных поглядаў (9%) і калецтва (8%). Адпаведна па прычыне іншага чым каталіцкае веравызнання (1,4%), а іншага чым польскае паходжання (0,3%). Адсотак асоб, якія мелі асабісты кантакт з асобай горш трактаванай па прычыне колеру скуры, нацыянальнага або этнічнага паходжання налічвае аж 40%, а веравызнання або бесканфесійнасці — 32%. Як вынікае з даследаванняў, вельмі вялікая нецалерантнасць пануе ў Польшчы ў адносінах да калекіх асоб, а асабліва псіхічна хворых. З іншых пытанняў гэтага даследавання вынікае, што, напрыклад, з ліку асоб, якія сутыкнуліся са слухачамі Радыё Марыя, аж 20% сцвярджае, што гэтыя асобы былі горш трактаваныя з-за свайго веравызнання (асобы праваслаўныя — 15%). Таксама адна трэць рэспандэнтаў, якая мела кантакт з егавістамі, будыстамі і мусульманамі сцвярджае, што прадстаўнікі гэтых веравызнанняў былі горш трактаваныя. Калі гаворка пра асобы, на думку якіх у Польшчы выступае праблема горшага трактавання, 15% паказвае этнічнае паходжанне, а 9% веравызнанне. Напярэдзе гэтага спіска стаяць псіхічная хвароба (17%) і сексуальная схільнасць (16%). Зараз пасля трэцяга ў спіску „этнічнага паходжання" стаіць „быццё пасля разводу" (14%). Рэспандэнтаў папрасілі таксама даць ацэнку ў шкале ад 1 (нядобра) да 5 (рашуча добра) кантактаў з прадстаўнікамі розных груп, якія падвяргаюцца дыскрымінацыі. Тут не ўспаміналі аб беларусах, а пры „асобе праваслаўнай" гэтая ацэнка склала 4,54 бала, значыць, паводле ацэнак даследчыкаў апынулася яна паміж асобай невідучай (4,51) і асобай, старэйшай за 50 гадоў (4,54). У сваю чаргу, калі гаворка пра сярэднюю сацыяльную дыстанцыю палякаў да груп, якія падвяргаюцца няроўнаму трактаванню, дык тут праваслаўныя асобы апынуліся нараўне са слухачамі Радыё Марыя (па 21,4%). Гэты спісак адкрываюць геі, транссексуалы і бісексуалы, асобы псіхічна хворыя і лесбіянкі. Зараз пасля іх пералічваюцца ромы, арабы, мусульмане і чачэнцы. Найбольшай адкрытасцю ў адносінах да розных меншасных груп характарызуюцца Любушскае і Вармінска-Мазурскае ваяводствы, найменшай — Падкарпацкае, Люблінскае і Сілезскае ваяводствы. Падляшскае ваяводства змяшчаецца ў краёвай сярэдзіне.

Падляшскі дэпутат Роберт Тышкевіч, спасылаючыся на серыю інцыдэнтаў на нацыянальнай і рэлігійнай глебе на Падляшшы, да якіх даходзіла на працягу апошніх двух гадоў, і прыгавор беластоцкага суда, які ў апошні час першы раз прысудзіў удзельнікаў аднаго з іх да турэмнага зняволення, заявіў:

— Тыя, што хацелі распаліць вайну або выклікаць неспакой, пераканаліся, што суды не стаяць на іх баку. Справа не ў тым, каб пакаранні былі суровымі, але каб яны былі і каб такія здарэнні клеймаваліся.

Пасля адзначыў, надаючы тон пазнейшай дыскусіі:

— Нянавісць часта нараджаецца з няведання. І найлепшым адказам на яе з'яўляецца адукацыя. Адназначная, празрыстая пазіцыя дзяржавы ў гэтай справе з аднаго боку і адукацыя з другога гэта сцежка да вырашэння гэтай праблемы.

Згодны з ім быў віцэ-прэзідэнт Беластока Аляксандр Сасна, дарадчык прэзідэнта Браніслава Камароўскага па справах нацыянальных і рэлігійных меншасцей:

— Праблема дыскрымінацыі гэта праблема няведання. Большасць павінна ведаць больш аб меншасцях. Калі пазнаёмімся, акажацца, што мы такія самыя і ўсе аднолькава хочам жыць у бяспецы, шчасці і дабрабыце.

У час дыскусіі некаторыя ўдзельнікі канферэнцыі са здзіўленнем успрынялі выступленне Анны Паўлоўскай, упаўнаважанай прэзідэнта Беластока па справах супрацоўніцтва з няўрадавымі арганізацыямі. Невядома чаму ў матыве, прысвечаным дыскрымінацыі на нацыянальнай і этнічнай глебе на Падляшшы засяродзілася яна на прэзентацыі двух пунктаў прынятага ў 2010 годзе кодэкса этыкі працаўнікоў Гарадской управы ў Беластоку. Першы з іх гучыць: „У кантактах з наведвальнікамі працаўнікі Управы павінны асабліва (...) прымаць правільныя вырашэнні, трактуючы роўна ўсіх наведвальнікаў". Другі абвяшчае: „Працаўнікі Уравы сумленна рэалізуюць праграмы, планы, стратэгіі органаў Горада Беласток незалежна ад сваіх перакананняў, палітычных поглядаў ці светапогляду".

Бурмістр Сямятыч Пётр Сіняковіч, успамінаючы аб супрацьдзеянні дыскрымінацыі і ксенафобіі ў гэтай гміне, паінфармаваў, што яго ўстанова ў апошні час занялася маніторынгам дзеянняў новага руху: Frontu Narodowego Wielkiej Polski, актыўнага ў апошні час на тэрыторыі Сямятыч:

— Пакуль з іх боку, на шчасце, нічога кепскага не дзеецца, апрача пісання на Фейсбуку.

Вельмі цікавае выступленне мела д-р Катажына Шоп-Руткоўская з Універсітэта ў Беластоку:

— У Беластоку больш адзначаецца тую польскую гісторыю, хаця б пераглядаючы гарадскія сайты. Яўрэі ў гэтай гісторыі спіхваюцца на абочыну. Беластоцкія яўрэі асацыююцца перш за ўсё з галакостам, а тое, што стваралі яны гэты горад, зусім забыта. Трэба іх далучыць да галоўнай плыні гістарычнай памяці. Люблін, напрыклад, у сваіх пераказах мультыкультурны і сваёй шматкультурнасцю ганарыцца (...). Еўрапейскі крызіс мультыкультурнасці не кранае нашай (...). Нацыянальная тоеснасць гэта не тое, што дастаецца раз і назаўсёды. Паддаецца яна нейкім выбарам, пытанням: кім з'яўляюся? Я паляк і сілезац, паляк і беларус і няма тут ніякай супярэчлівасці. Тоеснасць гэта не нуль-адзінкавы выбар. Можа змяняцца ў гісторыі асобы. (...) Шматнацыянальнасць не памяншае польскасці рэгіёна.

Дырэктар VI ліцэя ў Беластоку Тадэвуш Мосек пераконваў:

— Аб тым ці школа з'яўляецца дыскрымінуючай, вырашаюць найперш вучні і бацькі, пасля настаўнікі, лакальная традыцыя і традыцыі школы.

Камісар Малгажата Рэдуха, упаўнаважаная падляшскага каменданта Паліцыі па справах аховы правоў чалавека заявіла досыць спрэчна:

— Пры адборы ў паліцыю разглядаецца грамадская пазіцыя кандыдатаў. Справа ў тым, каб траплялі тыя, у якіх няма прадузятасцей, а калі маюць іх, каб іх не выяўлялі.

Мацей Тэфэльскі, упаўнаважаны падляшскага ваяводы па справах нацыянальных і этнічных меншасцей:

— Плывуць у Польшчы дзве асобныя плыні: ёсць гісторыя Польшчы і гісторыя польскіх меншасцей. Патрэбная адукацыйная праграма, якая паказвала б абедзве гісторыі ды паказала культуру і звычаі меншасцей.

З гэтым выказваннем сугучным было выступленне Анны Талярчык з беластоцкага Цэнтра імя Людвіка Заменгофа, якая пахвалілася новай публікацыяй сваёй установы. Гэта кніга „Religie Podlasia. Przewodnik nie tylko dla dzieci" (тыраж — ледзь 300 экзэмпляраў). Сабраны ў ёй асноўныя інфармацыі на тэму каталіцызму, праваслаўя, пратэстанцтва, юдаізму і ісламу. Апынуліся ў ёй тлумачэнні найважнейшых рэлігійных паняццяў і сімвалаў, галоўныя інфармацыі на тэму абраднасці і штодзённага жыцця гэтых пяці канфесійных груп, якія пражываюць на Падляшшы. Накіравана яна да малых атрымальнікаў, у тым ліку ўдзельнікаў майстар-класаў, што праводзяцца ў Цэнтры імя Людвіка Заменгофа (надалей можна запісвацца), прысвечаных якраз рэлігіям рэгіёна. Частку, прысвечаную праваслаўю, апрацавала д-р Ліля Буслоўская, выкладчыца Праваслаўнай духоўнай семінарыі і Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве, метадычны дарадчык па справах навучання рэлігіі ў Гайнаўскім павеце.

Міністр Казлоўская-Раевіч падвяла канферэнцыю:

— Узровень адкрытасці і закрытасці на іншых у Польшчы падобны да таго, які назіраецца ў іншых краінах Еўропы. Шляхам адукацыі і прафілактычных дзеянняў можам стварыць адкрытае грамадства, якое меншасці не толькі церпіць, але і адабрае. Калі гаворка пра змаганне з дыскрымінацыяй, на ўзроўні заканадаўства ёсць няблага, але ёсць праблемы з выкананнем закону і ўнутранымі поглядамі шматлікіх грамадзян.

На жаль, у час беластоцкай канферэнцыі, на якой са здагадкі мела быць гаворка аб супрацьдзеянні дыскрымінацыі ў адносінах да нацыянальных і этнічных меншасцей, іхнія прадстаўнікі былі на абочыне. Не хапіла для іх месца за сталом, за якім заселі ўдзельнікі дыскусіі, а толькі нешматлікім трапілася роля арatараў у час г.зв. вольнай дыскусіі.

# З Кузніцкага прыхода

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Набліжаючымся да Кузніцы з паўночнага ці паўночна-заходняга напрамку найперш паказваецца з-за лагодных бугаркоў тамашняя беласценная мураваная царква, пакрытая чырвонай бляхай. Узведзена яна была ў 1947 годзе; раней на тым месцы стаялі цэрквы драўляныя. Найранейшыя весткі пра царкву ў Кузніцы паходзяць з паловы XVI стагоддзя; з пачаткам наступнага стагоддзя тамашні прыход прымае пастановы Брэсцкай царкоўнай уніі. У 1772 годзе ўзводзіцца ў Кузніцы новая царква, якую ў 1911 годзе падмяняе чарговая. У выніку ваенных дзеянняў гэтая царква згарае ў 1944 годзе. На яе месцы кузніцкія прыхаджане ўзводзяць зараз новы драўляны храм, які таксама згарае два гады пазней.

Летапісцы прыходаў пішуць галоўным чынам пра цэрквы, пра плябаніі не заўсёды, а ўжо бадай мала калі пра жыццё сямейнікаў духавенства, асабліва наймалодшых: як яны раслі, з кім гулялі, як у шырэйшым сэнсе праводзілі час. Таму пра такія эпізоды трэба толькі дадумвацца. А важныя яны, бо з гэтага асяроддзя выйшла шмат значных фігур не толькі царкоўнага жыцця. У мяне асаблівая цікавасць да кузніцкіх 1830-х гадоў, бо ж тады там узрастаў Міхаіл Каяловіч, які лічыцца асноўным пачынальнікам таго напрамку грамадска-палітычнай думкі, які атрымаў назву заходнерусізму.

Парохам Кузніцкага прыхода ў 1828-1840 гадах быў Іосіф Каяловіч, выпускнік духоўнай семінарыі пры Віленскім універсітэце, дзе ягоным аднакурснікам быў пазнейшы віленскі мітрапаліт Іосіф Сямашка, галоўны ініцыятар Полацкага царкоўнага сабора ў 1839 годзе, які прыняў пастанову пра перавод уніятаў з беларускіх і ўкраінскіх земляў у праваслаўе і далучэнне іх да Рускай праваслаўнай царквы. Грамадскія погляды Сямашкі больш-менш вядомыя не толькі па ягонай эпісталярнай спадчыне, але ж асабліва па дзейнасці, і трэба меркаваць, што і погляды ягонага кузніцкага цёзкі і аднакурсніка былі падобнай накіраванасці.

Што магло спакушаць уніяцкіх святароў да пераходу ў праваслаўе? Цалкам магчыма, што пасля паўстання 1830-1831 гг. на гэтае асяроддзе была накіравана нейкая прапагандысцкая дзейнасць царскай адміністрацыі. Але, мабыць, гэта яшчэ не ўсё. Уніяцкая царква пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, а асабліва ж пасля згаданага паўстання, апынулася ў нейкай разгубленасці ў выніку паслаблення значэння свайго дасюлешняга канфесійнага апекуна — Каталіцкага касцёла. Перамога праваслаўнай Расіі ў войнах пачатку XIX стагоддзя і здушэнне польскага паўстання маглі ўзбудзіць пашану да тае рэлігійнае структуры, ад якой уніяты былі адарваны ў 1596 годзе...

Вельмі верагодна, што такі настрой панаваў і ў сям'і кузніцкіх Каяловічаў. У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Кузніца апынулася пад прускім уладараннем. Маці малога тады яшчэ Іосіфа Каяловіча, мабыць, не надта ўяўляла як далей жыць і патаемна пераправілася з сынам цераз Нёман у тадышня межы Расійскай імперыі. Няцяжка здагадацца, што ў гэтай сям'і расійская дзяржава стала свайго роду абетаванай зямлёй.

Міхаіл Каяловіч нарадзіўся ў 1828 годзе ў Кузніцы. Даведнік Брокхаўза і Эфрана падаваў, што ў 1890-х гадах у гэтай мясцовасці пражывала ў сем разоў менш праваслаўных чым католікаў і ў адзінаццаць разоў менш чым яўрэяў; верагодна, што і ў 1830-х гадах, калі там узрастаў пазнейшы прапаведнік заходнерусізму, прапорцы былі падобныя, а яны — гэтыя прапорцы — трэба меркаваць, таксама пакінулі свой след у ягоных поглядах. Гэтая колькасная слабасць, а магчыма таксама, што і іншыя акалічнасці, мабыць, выклікалі ў яго нейкую закамплексаванасць, нейкае пачуццё калектыўнай слабасці, і падштурхнулі яго разглядацца за больш магутным социумам, каб апынуцца ў мажорнейшай сукупнасці.

Пачатковую адукацыю Міхаіл Каяловіч здабывае ў супрасльскім духоўным вучылішчы, пасля, у 1845 годзе паступае ў Віленскую духоўную семінарыю, а ў 1851 годзе ў духоўную акадэмію ў Пецярбургу, якую заканчвае ў 1855 годзе. Паўгода праводзіць у Рызе, а пасля вяртаецца ў Пецярбург, у сваю акадэмію, дзе з часам становіцца загадчыкам кафедры расійскай гісторыі; на гэтай пасадзе працуе аж да канца ягоных дзён, да 1891 года.



Касцёл у Кузніцы



Царква ў Кузніцы

Чым жа быў заходнерусізм? Яго канцэпцыя грунтавалася на сцвярджэнні, быццам беларусы і ўкраінцы не з'яўляюцца самастойнымі нацыямі, толькі адгалінаваннямі рускага народа. І тут былі розныя канцэпцыі адносін да гэтых „адгалінаванняў". Шавіністычна-вялікадзяржаўная канцэпцыя лічыла беларусаў і ўкраінцаў вынікам польска-каталіцкай экспансіі і прапанавала знішчыць іх этнічныя асаблівасці. Вядучы прадстаўнік гэтай плыні Ксенафонт Гаворскі, ураджэнец Кіева, пісаў у адным са сваіх пісем: „У нас в Киеве только теперь не более пяти упрямых хохломанов из природных малороссов, а то (прочие) все поляки, более всех хлопотавшие о распространении малорусских книжонок. Они сами, переодевшись в свитки, шлялись по деревням и раскидывали эти книжонки; верно проныpливый лях почуял в этом деле для себя поживу, когда решился на такие подвиги".

Каяловіч належаў да памяркоўнай плыні заходнерусізму, якая прызнавала Беларусь і Украіну спецыфічнымі этнакультурнымі рэгіёнамі, але фарміраванне нацыянальных супольнасцей і развіццё нацыянальных культур украінцаў і беларусаў лічыла справай палітычна шкоднай. Вось фрагменты з ягоных „Чтений по истории Западной России": „Малороссийский сепаратизм рассыпается в прах при всяком прикосновении к действительной народной жизни и, без сомнения, давно бы пал, но он поддерживается самым недостойным образом. Его усердно поддержали и раздули в общественном мнении поляки, которым он очень выгоден, как весьма действительное средство ослабить Малороссию и сделать ее более податливою на польские мечтательные планы. В новейшее время они всеми силами подогревают малороссийский сепаратизм из Галиции и уже успели нанести Малороссии жестокий удар. На почве сепаратизма выросло недавнее социалистическое движение в Малороссии, наделавшее столько бед. Нельзя не оплакивать этого жестокого малороссийского заблуждения. Оно уже погубило много малороссийских молодых сил и продолжает губить их; оно спутывает и парализирует многих лучших малороссийских деятелей, которые просто только любят свою родину и желали бы содействовать правильному русскому ея развитию. Можно, впрочем, надеяться, что Малороссия преодолеет эти затруднения. В преодолении этих трудностей и вообще в изучении западно-русской жизни должна бы помочь Малороссии Белоруссия. Она так бедна, что не может допускать праздных теорий, отвлеченных мечтаний, да и белорусское племя так близко к великорусскому, что никакой сепаратизм не может в нем иметь силы. Этим могут заниматься только или совершенно легкосмысленные головы, неспособныя ни на какое серьезное дело, или еще более жалкие орудия дурных поляков и жидов, действительно заботящихся и здесь о развитии сепаратизма".

Такіх „озабоченных" галоў, думаючых паводле прапагандаванага Каяловічам штампа, шмат і сёння, бо гэты штамп дае лёгкае тлумачэнне ўсялякіх складанасцей — у іх віноўныя нялюбыя Каяловічу палякі і жыды. Вось іншая вытрымка з Каяловіча, не чужая і значнай частцы польскага грамадства: „Известно, что всякая система жизни, сильная, разработанная, располагает своих последователей дурно относиться к другой системе. По этой причине Европа, гордая своей цивилизацией, не легко может признать законною другую цивилизацию — русскую, сложившуюся по другим началам, особенно религиозным. Поляки прониклись западноевропейскою цивилизацией. Они кажутся Европе законными деятелями в грубой, по их мнению, варварской, западной России. В этом случае они смотрят на западную Россию точь в точь, как поляки со своей латинской и шляхетской точки, т.е. как на грубый материал, который нужно обработать по их началам". Заходняя Расія: „Под именем западной России нужно разуметь Белоруссию, западную Малороссию, или так называемую Украину, и Литву, в собственном, племенном смысле, т.е. вообще под именем западной России нужно разуметь всю ту страну, которая лежит на запад от Днепра и юго-запад от областей верхней Двины до границ Пруссии, далее до Польши, или так называемых привислинских губерний, и наконец до границ австрийскаго государства". Але, прымаючы ў поле зроку іншыя аспекты, можна гэтыя межы „раздвинуть" значна шырэй.

Пра племянное рассяленне: „Малороссийское племя почти везде живет на черноземной почве, так что, можно сказать, чернозем и малоросс — это два слова, неразрывно между собой соединенныя. Это особенно резко бросается в глаза в тех местностях, где малороссийское племя сходится с белорусским. Где только выдался клочек черноземной почвы — там малороссы, а где пески и болота — там белоруссы".

Пра саміх беларусаў: „Природа, кажется, собрала в стране Белоруссии все неудобныя для жизни человека условия, чтобы дать бытие нескольким громадным рекам, благами которых большею частию пользуется не-белорусское племя. В этой стране берут свое начало Днепр, Двина, Припеть, Неман, Нарва. Пески, болота, низшего сорта лес покрывают почти всю Белоруссию. В такой стране народ не может отличаться богатыми физическими свойствами. Белоруссы большею частию небольшого роста, хилы, вялы, бледны. Нередко парни и девицы раньше двадцати лет уже не имеют ни кровинки в лице. В тех местностях, где много песков, болот, лесов, белоруссы живут как будто на островах, между которыми иногда по нескольку месяцев не бывает никакого сообщения. Вследствие таких особенностей страны, белоруссы живут небольшими, редкими группами. Большия деревни у них редко попадаются. При своей разбросанности, белоруссы не имеют той общественной силы, какую мы видим в малороссах".

*(працяг будзе)*



# Чаромхаўскія спрэчнасці

19 кастрычніка 2012 года суполка Насычальня шпалаў у Чаромсе падала ў гміну заяву на атрыманне дазволу ў справе «будовы абсталявання для газіфікацыі драўляных адходаў, якія ўтвараюцца пры апрацоўцы драўніны і вытворчасці чыгуначных шпал, у стацыянарным рэактары з магутнасцю 500 кВт з вузлом ахаладжэння і ачысткі генератарнага газу і яго выкарыстання ў газавым рухавіку для вытворчасці электраэнергіі і цяпла».

22 кастрычніка Гмінная ўправа інфармацыю аб пачатках працэсу выдачы рашэння падала да публічнага ведама на табліцы аб'яў і на сайце Бюлетэня публічнай інфармацыі. Для азнаямлення з дакументамі, падачы заўваг і прапаноў у гэтай справе вызначаўся 14-дзённы тэрмін. Незалежна ад гэтага заява насычальні разглядалася на сесіі Рады гміны 13 лістапада. І на гэтым этапе ўзнік ужо закалот.

— Мы ўпершыню пачулі аб справе на сесіі, — сказаў мне радны Мікалай Самасюк.

Супраць ідэі спальвання драўляных адходаў з вытворчасці ў насычальні выступіла радная Валянціна Кердалевіч. Аргументавала, што ў гэтым працэсе могуць быць выкарыстаны насычаныя крэазотам адходы, якія пагражалі б забруджаннем асяроддзя. Як прыклад падала забруджанне пітнай вады ў навакольных калодзежах гэтым сродкам, калі не было яшчэ водаправода. — Няма зараз упэўненасці, што не будуць утылізавацца іншыя адходы збоку, — аргументавала радная. Астатнія радныя аднадумна падтрымалі Валянціну Кердалевіч.

Аб справе я пачуў на сходзе гуртка Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе-Станцыі 15 лістапада. Удзельнікі дыскусіі крытычна выказваліся аб арганізаванні „спалярні" ў насычальні і патрабавалі ад войта рашучых дзеянняў.

Пасля сходу паспрабаваў я высветліць спрэчнасці ў Гміннай управе. Калі прад'явіў праблему, з якой прыходжу, войт Юры Шыкула папрасіў у кабінет свайго намесніка.

— Аб чым гаворым? — усхвалявана пачаў Ірыней Леанюк. — Ніякай „спалярні" ў насычальні не будзе. Зрэшты, у дакументах няма такой назвы. Па-першае, гаворка ідзе аб пабудове абсталявання для газіфікацыі абрэзкаў, атрыманых у выніку механічнай апрацоўкі драўніны, а не аб утылізацыі ўсялякіх адходаў. Па-другое, гміна не прыняла станоўчага рашэння ў гэтай справе, толькі надала заяве ход у адпаведнасці з законам.

Для верагоднасці войт прад'явіў службовае пісьмо ад 22 кастрычніка 2012 года Рэгіянальнаму дырэктару аховы асяроддзя ў Беластоку і Дзяржаўнаму павятоваму санітарнаму інспектару ў Гайнаўцы з просьбай выдаць экспертызу ў справе ўздзеяння планаванага абсталявання на асяроддзе. Санітарны інспектар у Гайнаўцы пісьмом ад 30 кастрычніка адмовіўся займацца справай, бо не мае такога абавязку. Рэгіянальны дырэктар аховы асяроддзя пісьмом ад 5 лістапада паінфармаваў гміну, што выступіў да заяўніка, каб той папоўніў дакументацыю. Тычыцца гэта інфармацыі на тэму рэчываў і энергіі, якія будуць выдзяляцца ў асяроддзе, санітарнай каналізацыі, як і колькасці ды віду ўзнікаючых адходаў.

Гэта, памаёй думцы, з'яўляецца доказам, што справа пабудовы ўстаноўкі для газіфікацыі драўляных адходаў у насычальні грунтоўна аналізуецца. Таму чарамшане могуць спаць спакойна.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Запрашэнне ў Дуброву

Я называюся Галіна Радуха і з'яўляюся старшынёю Дуброўскага згуртавання лакальнага прадукту. Мне вельмі прыемна, што магу расказаць вам пра нашу арганізацыю. Яна ўзнікла зусім нядаўна, у сакавіку гэтага года. Сядзібу маем у Гарадской управе ў Дуброве-Беластоцкай. Да нашага згуртавання належаць гаспадыні, якія вырабляюць усялякія харчы і іншыя прадукты. Як сама назва кажа, лакальны прадукт гэта ўсё тое, што мы прадукуем. І во — ужо робіцца смачна, слінка сама цячэ па барадзе! Дык я хутка раскажу што ў нас ёсць. Нашы гаспадыні робяць галандскія сычужныя сыры. Гэта сыр, у які дадаецца сычуг. Малако мусіць быць свежае, ад нашых кароў. Пякуць нашы гаспадыні таксама хлеб на заквасцы. Найсмачнейшы ён выходзіць, калі ў хлябной печы паліць дрывамі з топалі. Цеста расце ў дзяжы, а мука мусіць быць пытляваная ў млыне, са свайго жыта. Яшчэ нашы бабкі робяць масла, а б'юць яго ў тлучцы. І наша крупяніца ці баба вельмі смачная і ўсе яе любяць. А найбольш важны наш прадукт — клінок дуброўскі. Гэта белы сыр, які ў нашым рэгіёне гаспадыні робяць ужо даўно. Ён далікатны ў смаку, можна яго есці сам, або пячы з ім налісնікі ці пірагі; кожны, хто яго паспрабуе — хваліць.

Не самой ежай чалавек жыве. Маем у нас гаспадара, які займаецца мастацкай разьбой: з-пад яго рукі выходзяць цуды! Адна наша гаспадыня робіць пекныя сурвэты, абрусы і фіраны, а другая — малюе яйкі. Як відаць, у нас ёсць усё для душы і цела. Мы яшчэ маладыя, а ў нас ужо ёсць поспехі. На кірмашы ў Аўгустове наша выстаўка і наш клінок здабылі вылучэнні. Ну а найбольшым для нас гонарам было заняцце першага месца і здабыццё ўзнагароды маршалка за наш клінок на конкурсе «Наша кулінарная спадчына», які адбыўся ў жніўні ў Беластоку. Мы вельмі шчаслівыя, бо гэта памагло нам яго прамаваць. На гэтым самым конкурсе нашы гаспадыні здабывалі ўзнагароды і вылучэнні за апенькі, крупяніцу і настойку на айве. У нашым горадзе маем драўляныя ларкі, дзе прадаем свае тавары. Сардэчна запрашаю вас у нашу мясціну і ў госці да нашага згуртавання!

**Галіна РАДУХА**

*Віктар БУРА*

## *Блакноцік вазьму, аўтаручку*

*Як толькі пакліча мяне ціша,*
*Душа расквітнее ізноў,*
*Блакноцік вазьму, аўтаручку,*
*Бывай мая Гайнаўка, здароў.*

*Такім ужо стаў я хлапіскам,*
*Не пішацца дома нічуць.*
*Аблашчу ў Рыбаках вятрыска,*
*Дождажык патраплю глынуць.*

*Адпачну пад гонкімі ліпамі,*
*І светла мне стане ў душы,*
*Пальюцца свабодна страфіскі,*
*Адно паспявай і пішы.*

*Пасля я ў „Ніву" паеду,*
*Каб месца ў газеце заняць.*
*Затым, хочаш не хочаш,*
*А трэба ўжо кніжку пісаць.*

# www.youthcenter.by

Кожная палітычная плынь імкнецца да пашырэння, прычым найбольш вартым лічыцца пашырэнне за кошт моладзі. Гэта зразумела — стаўка на маладых дае абгрунтаваную надзею на тое, што справа не загіне разам з адыходам старэйшага пакалення.

Сёння ў Беларусі казаць аб вялікім уплыве нейкай адной палітычнай сілы не выпадае. Палітолагі гавораць аб выпаленым палітычным полі, на якім па сутнасці застаўся толькі адзін палітычны гулец — беларускі прэзідэнт. Разам з тым дэмакратычныя партыі і акалаючыя іх грамадскія арганізацыі, якія, праўда, нідзе ў беларускай уладзе не прадстаўлены, прыкладаюць масу намаганняў, каб пашырыць свой уплыў на моладзевы асяродак.

Адным з прыкладаў такой з'явы можна назваць Магілёўскі моладзевы цэнтр, які існуе ў Магілёве з 2006 года. Створаны дэмакратычнымі актывістамі, ён доўгі час не надта гучна заяўляў пра сябе і сваю дзейнасць. Сітуацыя змянілася зусім нядаўна — адной з прыкмет чаго стала з'яўленне ў інтэрнэце сайта арганізацыі, які месціцца па адрасе **www.youthcenter.by**.

„Сайт Магілёўскага моладзевага цэнтра разлічаны як на сам цэнтр, але і на тыя арганізацыі, якія ў яго будуць уваходзіць. Кожнай арганізацыі будзе прадастаўлена магчымасць стварыць асобны сайт для сябе, і назваць яго так, як яны захочуць", — распавёў дырэктар Магілёўскага моладзевага цэнтра Эдуард Баравікоў.

Пакуль на сайце не прадстаўлена ні адной арганізацыі, з выключэннем жаночага цэнтра „Пралеска", але выдатна распавядаецца пра сутнасць Моладзевага цэнтра. Яго асноўным відам дзейнасці з'яўляецца падтрымка і садзейнічанне моладзевым грамадскім арганізацыям і ініцыятывам у іх развіцці, а таксама аказанне дапамогі ў стварэнні новых моладзевых няўрадавых арганізацыяў і ініцыятыў. Аб гэтым распавядаецца на старонцы „Хто мы".

На першай жа старонцы сайта актывісты цэнтра канкрэтна акрэсліваюць, дзеля чаго ўсё робіцца. « „Магілёўскі моладзевы цэнтр" лічыць, што ўдзел маладых людзей у грамадскім жыцці мае фундаментальнае значэнне для стварэння стабільнай і здаровай дэмакратыі. (...) Мы імкнемся да стварэння новага пакалення сацыяльна свядомых грамадзян, якія ствараюць пазітыўныя змены ў жыцці грамадства, і ў цэлым па краіне"», — так прэзентуюць сваю арганізацыю яе актывісты.

Пра дзейнасць моладзевага цэнтра распавядаецца на старонцы „Што мы робім". Праўда, інфармацыя там збольшага ўжо састарэлая. Апошняе абнаўленне навін пазначана чэрвеньскай датай.

„Ёсць, канешне, нейкія недапрацоўкі, якія мы з цягам часу будзем выпраўляць", — абяцае Эдуард Баравікоў, падкрэсліваючы, што аснова сайта ўсё ж такі ўжо існуе. Паводле яго, на сайце будуць прадстаўлены навіны ад арганізацыі, але могуць быць і „іншыя цікавыя навіны глабальнага кшталту".

Таксама з цягам часу ідэйныя натхняльнікі сайта абяцаюць зрабіць яго мультымедыйным. Па словах Баравікова, у цяперашнім жыцці без гэтага ніяк нельга.

Пакуль нічога нам не кажа старонка „Кантакты". На ёй прадстаўлены толькі адрас, па якім, пэўна, афіцыйна месціцца Моладзевы цэнтр, і дадзены нейкі тэлефон без пазначэння яго ўладальніка. „«Кантакты» зменяцца ў лепшы бок. Будуць прадстаўлены не толькі кантакты кіраўнікоў магілёўскага цэнтра, але і кантакты кіраўнікоў розных арганізацый", — гаворыць дырэктар Баравікоў.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# БЕЛАРУСІ Скарбы

### Народныя танцы

Сённяшнія рэкламныя слупы і газеты ў Беларусі стракацяць шматлікімі запрашэннямі на курсы арабскіх, індыйскіх, лацінаамерыканскіх і іншых экзатычных танцаў. Мода на чужое, паводле прынцыпу „абы не сваё", даўно ўкаранілася на нашай постсавецкай прасторы. Грамадская супольнасць атрымала доступ да заходняга і ўсходняга, але не хоча адраджаць сваё і трымацца каранёў. Таму і свае нацыянальныя танцы намнога менш папулярныя чужынскіх. Гутарка тут натуральна не пра тое, каб зачыняцца на ўвесь свет, аднак пра тое, што нельга грэбаваць сваім. А ў нас атрымліваецца, што алкагольны пладова-ягадны напой „Крыжачок" куды больш вядомы і прыймальны, чым аднайменны танец.

З народнымі танцамі асабіста мне давялося непасрэдна сутыкнуцца на першым курсе ўніверсітэта. Якраз быў абвешчаны конкурс мастацкай самадзейнасці паміж факультэтамі. Лагічна, што гонар гістарычнага факультэта выпаў бараніць нам, першакурснікам, з ліку якіх дэканам былі выбраны наш квартэт хлопцаў, якія яшчэ не служылі ў войску. Астатнія былі старэйшымі і пазбеглі „добраахвотнага ўдзелу". Пад кіраўніцтвам выкладчыц народных танцаў разам з дзяўчатамі за пару тыдняў мы мусілі развучыць і выканаць на сцэне не абы-што — а „Лявоніху". Хто не ведае — кампазіцыйна гэты танец грунтуецца на нескладаных рухах, якія выконваюцца ў хуткім тэмпе. Сама „Лявоніха" выконваецца на мелодыю аднайменнай народнай песні, якая пачынаецца са слоў „А Лявоніху Лявон палюбіў…". У розны час пастаноўку танца ўзбагачалі розныя беларускія харэографы.

Падрыхтоўка да выступу праходзіла спакойна, калі не лічыць беспадстаўнай рэўнасці з боку жаніха маёй партнёркі па танцы. Нашы нешматлікія рэпетыцыі далі свой плён — станчылі мы на конкурсе, як на аматараў, досыць прыстойна. Прызоў, праўда, не далі, але тады хіба іх і зусім не было. Затое вусная пахвальбы „ўдастоіліся". Больш ніколі публічна танчыць не даводзілася — дэбют нашай студэнцкай чацвёркі так і застаўся адзіным нашым выступам. Дзіўна, але нават зараз, больш чым праз чвэрць стагоддзя магу паўтарыць тыя простыя рухі і прытупы „Лявонікі". Напэўна яна сапраўды гарманічная для рытму беларускага сэрца і стану душы. А дэкану, які ангажаваў нас у тую прыгоду, сапраўды варта быць за тое ўдзячным.

Сапраўднае і прафесійнае выкананне народных танцаў на сцэне давялося пабачыць на канцэрце знакамітых „Харошкаў" яшчэ ў час Савецкага Саюза. Іх праграма была надзвычай феерычнай. Гэты калектыў быў адной з візітак тагачаснай Беларусі і адзін з нямногіх даваў сапраўднае ўяўленне пра беларускую музычную і танцавальную культуру. Здаецца, ён існуе і зараз. У дзевяностыя гады ўжо мінулага стагоддзя цікавыя народныя танцавальныя калектывы шырока паўставалі і ў горадзе над Нёманам — варта прыгадаць хоць бы „Гарадніцу" ці „Белыя росы".

Некалі, яшчэ ў XIX стагоддзі віцебскі публіцыст Ігнат Манькоўскі напісаў: „Беларускія народныя танцы зусім не падобныя на польскія і мала нагадваюць рускія скокі. У іх рухі вельмі моцныя і хуткія...". Будзь мая воля, увёў бы навучанне народным танцам у цяперашніх школах. „Лявоніха" і „Полька", „Крыжачок" і „Бульба" — гэта тыя народныя скарбы, якія расцярушваюцца ў свеце глабалізацыі і гублення сваіх сапраўдных каранёў. Яны, гэтыя танцы, сапраўды арыгінальныя і ўнікальныя, зберагаюць наш генетычны код.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Як вас бачаць, так пра вас пішуць...

15 траўня папрасіў я ў лекара Гайнаўскай артапедычнай амбулаторыі нарад на артапедычныя боты. Такую спраўку я атрымаў. Калі дачка падалася ў Беластоцкае аддзяленне НФЗ дзеля рэгістрацыі, там ёй сказалі, што дакумент няправільна запоўнены. Лекар памылкова запісаў код аднаго бота, а патрабавалася зрабіць пару ботаў. Падаўся я паўторна ў Гайнаўку. Артапед на тым жа дакуменце дапісаў код другога бота і папраўку заверыў сваёй іменнай пячаткай. І гэтым разам нарад НФЗ адкінуў. Аргументацыя была такая ж як і раней: на пару ботаў павінны быць два нарады з адпаведнымі кодамі.

Трэці раз я ў Гайнаўку не паехаў. Па электроннай пошце паслаў прашэнне дырэктару Самастойнага публічнага прадпрыемства медычнай аховы. У заяве высветліў праблему і прасіў, каб артапед аформіў неабходны мне дакумент згодна з патрабаваннямі НФЗ. Пры тым дадаў, што я не ў змозе асабіста прыехаць у амбулаторыю, бо здароўе не дазваляе і трэба затраціць на падарожжа надармна час і лішнія грошы. Гэта было 9 кастрычніка. Праз некалькі дзён пазваніў артапеду і прад'явіў сваю просьбу. Лекар абяцаў, што справу аформіць, але трэба ў аўторак яму прыпомніць, бо можа забыць. Так я і зрабіў. 16 кастрычніка раніцай пазваніў у рэгістрацыю, каб паднялі маю картатэку і перадалі ў артапедычную амбулаторыю. І тут учыніўся скандал. Рэгістратарка адказала, што трэба было ўчора пазваніць і падняць картатэку, бо зараз усе картатэкі ў лекара. Не стану дэталёва пераказваць ход нашай размовы, паколькі яна была нявеглівай. Канчаткова я застаўся вінаватым, бо паслаў заяву дырэктару і падняў на ногі цэлы шпіталь. А чалавек ні ў чым не вінаваты. Афармленне здавалася б звычайнай справы каштавала мне шмат нерваў, затраты некалькіх дзён на лішнюю валакіту па Гайнаўцы, таксама грошай на падарожжа. А ўсё па прычыне таго, што хтосьці з дзяржаўных чыноўнікаў зрабіў памылку. Затым мая заўвага ў адрас персанала гайнаўскага шпіталя: больш ветлівасці для пацыентаў, паважаныя рэгістратаркі. Бо народная мудрасць напамінае — як вас бачаць, так пра вас пішуць! Варта пра гэта памятаць.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Вечар пенсіянераў

Саюз пенсіянераў у Нараўцы кожную восень ладзіць „Дзень сеніёра". Вечарам, 28 кастрычніка, пенсіянеры з Нараўкі і ваколіц сабраліся ў мясцовым рэстаране, каб урачыста адзначыць сваё свята. Апрача пенсіянераў з Нараўкі гмінны аўтобус прывёз сюды жыхароў Ляўкова, Ахрымоў, Плянты, Альхоўкі, Масева ды іншых вёсак.

Вечар адкрыла Ядвіга Карпюк — кіраўнік Саюза пенсіянераў у Нараўцы. Яна прывітала запрошаных гасцей, сярод якіх былі войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, віцэ-староста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка і дырэктар Гміннага асяродка культуры Анна Стульгіс. Ва ўрачыстасці прысутнічала каля шасцідзесяці чалавек, якія елі смачныя стравы, запівалі напоямі ды танцавалі пад мілагучны спеў Анны Карэтка ды музыку Пятра Скепкі. У перапынках паміж танцамі ладзіліся адмысловыя гульні: хто хутчэй, хто спрытней, хто больш кемлівы.

Былі таксама народныя песні ды мастацкае чытанне школьных вершаў. Спявалі вядомыя мясцовыя спявачкі: Вольга Сачко, Валянціна Галабурда, Зінаіда Каліноўская, Люба Трусевіч ды іншыя.

Вечар засмуціла вестка аб смерці 50-гадовай працаўніцы Гміннай управы Крысі Савіцкай, якую ўсе ведалі, любілі і шкадавалі. Яшчэ раз усе пераканаліся, што людзі як дрэвы ў лесе: адны стаяць доўга, а другія хутка падаюць. Таму ўзаемна жадалі сабе сотні гадоў і выпівалі за шчаслівую будучыню.

Вечар прайшоў у мілай атмасферы і ўсе былі задаволеныя.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Новыя міні-пачакальні

Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

Восенню здалі ў карыстанне новыя пачакальні на аўтобусных прыпынках ПКС у Гарадзіску (на здымку), Міхнаўцы і Тарнопалі (Нараўчанская гміна). Восенню і зімой будзе дзе схавацца ад дажджу або снежнай завеі.

Варта дадаць, што сёлета крыху больша пачакальні паставілі ў Старым Ляўкове, Новай Луцэ і ў Семяноўцы ды меншую — у Свінароях.

## Найпрыгажэйшыя сядзібы

Сёлета адзначаны былі сядзібы ў конкурсе „Найпрыгажэйшыя сядзібы 2012 года ў Нараўчанскай гміне". У катэгорыі „прыхатні кветкавы агарод і панадворак" тры раўнапраўныя першыя месцы занялі Валянціна Галабурда з Альхоўкі, Лідзія Галубоўская з Новага Ляўкова і Іаланта Данілецкая з Нараўкі, другое — Юлія Янюк са Старога Масева ды два раўнапраўныя трэція месцы — Ян Банцаровіч са Старога Масева і Галіна Бірыцкая з Плянты. У катэгорыі „сялянская сядзіба" ўзнагароду за першае месца атрымала Зіна Раманчук з Альхоўкі, за другое — Таіса і Ян Драўноўскія з Міклашэва ды трэцяе — Анатоль Матысюк з Семяноўкі. Вылучэнне атрымала сядзіба Яна Леўшы з Масева. Варта дадаць, што вышэйзгаданыя сялянскія сядзібы былі прыгожа добраўпарадкаваныя і дагледжаныя.

## У Гайнаўцы

Зараз, у верасні, у Гайнаўцы шпаркім тэмпам перабудоўваюць вуліцу 11 лістапада. Пачалі яе рамантаваць у пачатку лета ад скрыжавання з вуліцай Баторыя. Дагэтуль ужо адрамантавалі вялікі кавалак: паклалі асфальт на маставой, праклалі тратуары з абодвух бакоў ды сцежку-дарожку для веласіпедыстаў.

У ліпені і ў жніўні новыя асфальтавыя маставыя атрымалі вуліцы, між іншым, Каменная, Малінавая і Сунічная, Мазуры, Старая Юдзянка, Бусловая, Пруса і Ажэшкі. На перабудову вуліц выдалі звыш мільёна злотых.

Варта дадаць, што ад 2005 года ў Гайнаўцы найбольш вуліц і вулічак адрамантавалі ў цэнтры горада ды ў іншых яго частках: „Міленіюм", „Пашкі", „Мазуры", „Ліпавая" і „Падлясе".

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Адгаданка

1. мора з Фінскім і Батнічным залівамі, 2. слязлівае выражэнне моцных пачуццяў, 3. сябра жняца, 4. вынікова заканчэнне шахматнай партыі, 5. прастора, што высока над зямлёй, 6. невялікая касцістая рыба семейства акунёвых (*Gymnocephalus cernua*), 7. меншая за возера, 8. дзейная ініцыятыва, 9. гаспадыня Эдэма, 10. біржавае вызначэнне цаны тавараў, 11. неадабральна бачаная серадой, 12. прозвішча 44-га прэзідэнта ЗША, 13. кароткая карабельная шлюпка, 14. цыліндрычная частка агнястрэльнай зброі, 15. сябра касца.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — казахская прыказка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 43 нумара

Белен, вывіх, дызайн, дына, е, звычай, ты, Хеб, юз.

Рашэнне: **Без звычайных людзей не бывае і выдатных**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## 21.11 — 01.12

**(22.03. — 20.04.)** Больш спакою са здароўем. Сустрэчы і рандэву на здзіў удалыя. Будзеш ведаць, як захапіць сваёй асобай. Паявяцца задумы як падзарабіць. Фартуна на рэдкасць спрыяе. Можа аказацца, што знойдзеш шчасце далёка па-за домам. Большыя шанцы на большае жыллё.

**(21.04. — 21.05.)** Тугавата з грашыма. 25.11. заляціць табе ў вока хтосьці, хто выклікча ў табе сімпатыю і давер. Чакае цябе расплата за добрыя справы і паступкі, зробленыя табою даўней. Грошы схочацца ўкласці туды, дзе можна найбольш зарабіць — але і лёгка страціць. У суботу пад вечар чакае незвычайная сустрэча тваіх мараў.

**(22.05. — 22.06.)** Поспехі ў іншага полу. Добры час на любоўныя прызнанні, пошукі пары. У час абручовага зацьмення Месяца (28.11.) не ўсё пойдзе згодна з тваімі планамі; цяжка будзе паразумецца і ў пары. Добры час задбаць аб сваю скуру. У сераду нейкае здарэнне падыме на новы ўзровень твой статус і аўтарытэт у вачах іншых.

**(23.06. — 23.07.)** Вельмі добра дагаворышся з дзецьмі. Усміхнешся і да суседкі, да пісьманосца... Упрыгожыш дом (усё ж адмоўся ад куплі дарагіх рэчаў). Не рассакрэчвай сваіх спраў і планаў, бо цікуюць злодзеі ідэй. У час абручовага зацьмення Месяца (28.11.) абы дробязь выведзе цябе з раўнавагі; засяродзься на пазітывах і не ўспамінай мінулага.

**(24.07. — 23.08.)** Вельмі сімпатычны тыдзень, асабліва для Львоў народжаных 4-8 жніўня. Грошай як дажджу, але будзеш скупаваты. Усё ж цікуюць напруга, стрэс, магчымая сур'ёзная страта. Не слухай парад асобы, перад якой ужо цябе асцерагалі.

**(24.08. — 23.09.)** Магчымыя праекты з былымі працаўнікамі. Выкарыстай па максімуме свае рэзервы і сілы, каб займець тое, што прызначана табе лёсам. Асабліва паспяховы аўторак. Поўня ў час абручовага зацьмення Месяца (28.11.) пакрыжуе табе планы, але пры нагодзе ўсвядоміш свае памылкі.

**(24.09. — 23.10.)** Вельмі добры час на інтарэсы: 25-29.11. будзь навідавоку ў начальства (не страціўшы прытым пачуцця меры і такту). Неспадзяваны капітал укладзі. 28.11. пара пачаць дыету, а нават пагаладаць. Падмацуйся прэпаратамі на паправу імунітэту. 27-30.11. Венера прынясе захапленне або і вялікае каханне з першага пагляду.

**(24.10. — 22.11.)** 26-30.11. прадвяшчаюцца добрыя лады ў фінансах. Рызыка прынясе прыбыткі, асабліва калі збярэш вакол сябе разумных дарадчыкаў. Самотным Скарпіёнам Венера прынясе новае каханне. Калі схопіць цябе інфекцыя, будзе бурлівай, ды патрымае толькі пару дзён. 25-29.11. энергіі будзеш мець што го-го, ды не заўжды ўмела яе выкарыстаеш; будзь асцярожным за рулём! Пад канец тыдня чакае цябе прыемны сюрпрыз.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш моцны, поўны аптымізму. Не пераборшч, усё ж, з актыўнасцю! Найлепш у справах службовых, куплі ўчастка ці жылля падзейнічаеш пасля 26.11. Будзеш у кепскай форме 28.11.; не дайся нікому справакаваць. Поспеху ў кар'еры будзеш абавязаны сваёй адвазе і рашучасці. Засяродзься на самастойных дзеяннях, найлепш у грамадскіх справах.

**(23.12. — 20.01.)** Казярогам з 3-9.01. можа ўдацца бізнес, які здаваўся быць поўнай утопіяй. Каля 26.11. чакае цябе прызнанне і правал працаўнікаў. Трапіць у тваё сэрца можа страла Амура. Прытрымлівай выдаткі на дом. 25-29.11. бравурнасць і рызыка могуць цябе загубіць; не шалей на дарозе!

**(21.01. — 19.02.)** 25-28.11. зрэалізуеш свае намеры, ажыццявіш задумы і здзейсніш мары. Чакаюць цябе перамены да лепшага. На ўзмацненне энергіі і спору панасі ў руках камень горнага крышталя. 25.11. не дай сябе справакаваць! Калі ў чацвер пасля поўдня ў тваё жыллё забяжыць жывёла, чакаюць цябе багацце і славутасць.

**(20.02. — 21.03.)** Чакае цябе шмат спраў і праблем, якія на канец прынясуць табе дабро. Праўда, цяпер адзін усяго не зробіш, прыйдзецца папрасіць дапамогі. 28.11. не дай сябе намовіць да чагосьці, чаго неўзабаве пашкадуеш. У аўторак не перагружай сваіх вачэй. Субота хандраватая, дык знайдзі сабе штосьці мілае для душы

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК



# Ратуйма Украіну, хлопцы! (5)

**На развітанне з Драгобычам наша тройца рашыла яшчэ раз прагуляцца па літаратурнай „вуліцы Кракадзілаў”, дзе адвячоркам мы доўга кружылі ў пошуках утульнай гасцініцы. Вуліца родам з „Цынамонавых крамніц”, прыдуманая Брунанам Шульцам, сёння ўспрымаецца як сінонім разбуханага багацця, дзікага кічу і прэтэнцыёзнай паказухі.**

Мастацкі вобраз узнік пад уплывам драгобыцкага квартала новых багацеяў, які літаральна вырас на вачах пісьменніка. Усё дзякуючы залежам нафты, знойдзенай напрыканцы XIX ст. Адкрыццё спрычынілася да гаспадарчага буму і эйфарыі, якая, здавалася, адменіць лёс. Захоплены Ігнацы Лукасевіч, вынаходнік газавай лямпы, пісаў: *Неўзабаве дарогі Галіччыны будуць выбіты не брукам, а чырвонымі гульдэнамі.* У прыкарпацкую глыбінку цягнулі новыя заваёўнікі свету — інвестары з Амерыкі, Еўропы, Расіі... Краявід змяніўся да непазнавальнасці, усюды тырчалі вежы і вышкі для дабычы чорнага золата. У самім Драгобычы дзейнічала аж пяць нафтавых суполак (у адной з іх працаваў брат Брунана Шульца). Залаты сон не трываў доўга. Ужо ў трыццатыя гады сусветны капітал пачаў з'язджаць з Драгобыча. Надзея на багацце развеялася як дым, залежы нафты канчаліся...

Дамы нафтавых алігархаў засталіся па наш дзень, каб самі сабой напамінаць пра шчаслівы момант у жыцці горада, у які няпроста паверыць. Стары свет стаяў на зямлі, але ў ментальным плане ён быў затаптаны, заглушаны, зашмараваны ардынарнай фарбай....

* * *

У памяць Брунана Шульца было ўжо зроблена некалькі жэстаў: дзве мемарыяльныя таблыцы, кавярня „Бруна”, яго імя атрымала таксама адна вулачка. Усё гэта было адначасова непрыкметным, схаваным за нейкім нябачным занавесам, без права голасу і пратэсту. У пэўны момант я сама злавіла сябе на непрыемным адкрыцці: тую памятную дошку на тратуары, месцы гібелі літаратара, людзі звычайна таптталі.

У наваколлі касцёла св. Варфаламея мы асцерагаліся, каб не наткнуцца на пана Станіслава, прыкасцельнага паляка, пра якога пісаў даведнік: *Ён адкажа на кожнае пытанне і пакажа ўсё, што цікавае польскаму турысту...*

— Цікава што скажа пра „вуліцу Кракадзілаў”?

Лозунг „вуліца Кракадзілаў” для сучасных жыхароў Драгобыча пусты і дзіўны, ды нават экзатычна-падазроны. Усё з-за няведання творчасці славутага земляка. Ёсць у гэтым нотка іроніі, якую аж свярбіць вытыкнуць новым заваёўнікам палацаў. Вось, той абшмараваны Шульцам квартал для сучасных гараджан абазначае нешта прэстыжнае, прыгожае. У палацах былых фабрыкантаў і банкіраў сёння размешчаны ўніверсітэты, мастацкія і тэхнічныя інстытуты. На „вуліцы Кракадзілаў” знаходзяцца музеі, мастацкія цэнтры, філіялы сусветных карпарацый. І каб было смяшней, тут якраз атрымалі свае вуліцы найпершыя класікі прыгожай пісьменнасці: Шаўчэнка, Міцкевіч, Франко...

Менавіта, на вуліцы Шаўчэнкі спасцігла нас хваравіта-непрыстойная карціна, і яна прамаўляла як вулічны каментарый да творчасці Шульца. Следам дзяўчыны ў шортах плёўся юрадзівы. Ён, як зачараваны, узіраўся на зграбныя сцёгны прыгажуні, па падбародку пацякла сліна...






У музеі мастацтваў. Злева: Тэрэза Свярубская, Ганна Кандрацюк і Надзея Кікста

Фота Дыяны Нахіла

* * *

На той жа „вуліцы Кракадзілаў” мы выпадкова наткнуліся на Музей мастацтваў. Будынак здалёк напамінаў торт. Дзверы ў палац былі прыадкрыты.

— Так, добра папалі, — прывітала нас Надзея Кікста. Працаўніца музея пацвердзіла інфармацыю, прачытаную на таблыцы. Тут, усярэдзіне, знаходзіліся фрэскі Брунана Шульца. Выстаўка працавала ў адным пакойчыку, яна таксама прамаўляла той-жа нематой, непрыкметнасцю. Яе цану і значэнне парадаксальна падбіла міжнародная афёра. Пакража адбылася ў белы дзень, тры гады таму. Фрэскі былі зняты са сцяны, пад пільным вокам спецыялістаў. Іх нібыта мелі аднавіць і перадаць у музей Шульца. Папраўдзе трапілі яны ў Ізраіль, дзе знаходзяцца па сённяшні дзень.

Медыйны шум на міжнароднай арэне дапамог украінцам зразумець цану твораў Шульца. Гэты прынцып спрацаваў нават у Палацы мастацтваў, дзе за наведанне парэштак фрэсак трэба было заплаціць у пяць разоў больш, чым за ўвесь музей. У будынку зберагліся сямейныя памяткі княжага роду Лянцкаронскіх. Калекцыя ўяўляе сабой творы еўрапейскага мастацтва: карціны, фарфор, мэблю.

Бруна Шульц не існуе без Драгобыча. У горадзе ўжо зразумелі гэтую залежнасць і ў верасні зладзілі тут Шульцаўскі фестываль.

— Украінцы не ведаюць Шульца, — кажа Надзея Кікста, — па простай прычыне. Няма перакладаў.

Першай ластаўкай на гэтым небасхіле з'явіцца пераклад „Цынамонавых крамніц” аўтарства Юрыя Андруховыча.

— А ці з боку мясцовай моладзі няма зацікаўлення?

— Цяжка сказаць, напэўна ён невядомы шырокім масам. У школьных праграмах пакуль няма месца для Шульца.

* * *

На „вуліцы Кракадзілаў” не было натоўпаў, зрэдку праязджала якая машына, нехта кудысьці паплёўся. Мы ўзіраліся ў глыб панадворкаў, дзе за фасадамі палацаў паквіквалі ў хляўчуках парсючкі, гаўкалі сабакі, гергеталі гусі. На аздобленых амурамі франтонах і дахах расла бярэзіна. Толькі пры галоўнай вуліцы Шаўчэнкі трафейныя будоўлі так-сяк былі адноўлены. Найбольш скрыгаталі бляха і штучнае золата, якое тут заступіла алейная фарба, вельмі папулярная ў Расіі і Беларусі.

Ад пабачанага аж памяшалася ў галаве. Сярод сцен „аздобленых” лішаямі мурой я стала прыкмячаць нейкія партрэты. Гэта прамовіла як знак — пара з'язджаць дамоў.

Ад боку касцёла св. Варфаламея даносіўся архаічны напеў: *Przybądź nam miłościwa Pani ku pomocy...*

# УВАГА КОНКУРС

## XV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.** У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.

***Прынцыпы ўдзельніцтва***

1. Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— **I група:** дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— **II група:** астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

3. Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборліва рукапіс у чатырох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: **Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84** з прыпіскай на канверце: XV Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

***Тэрміны***

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае **25 лістапада 2012 г.** (вырашае дата паштовага штампа).

2. Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў снежні 2012 г.

3. Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.

ISSN 0546-1960